ISSN 0320-7579

№ 6/2015(1045)

# Бярозка

## №6


мысліць крэатыўна

НА 13-й ГУЛЬНІ РОЗУМУ

**САША НЭМА:**
«Будзьце культурнымі хуліганамі»

**БЕЛ.ЛІТ.**
Абуйце новыя лапці

**СВАІМІ ВАЧЫМА!**
Лінейка Васіля Быкава і шахматы Кандрата Крапівы

ад Адама Глобуса
*Факт, герой, настрой, фактура, узор, выданне, рэдактура,*
**або Парады маладому літаратару**

Малюнак Віялеты Валынкінай «Гулянне», 6 клас, гімназія № 75, Мінск

# На пісьмовым стале беларускага класіка

***Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры прадстаўляе***



Гэты незвычайны настольны гадзіннік (Масква; 2-я палова XX стагоддзя) належаў беларускаму паэту Аляксею Зарыцкаму.



Лінейка з калькулятарам, зробленая ў Ганконгу, належала Васілю Быкаву.



Пісьмовы прыбор Янкі Маўра.



Вельмі арыгінальная алоўніца належала беларускаму пісьменніку Барысу Сачанку. Падаравана калегамі падчас працы ў выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя».



Рознакаляровыя сувенірныя шахматы былі ўласнасцю Кандрата Крапівы.



Знешне небяспечная сувенірная ручка належала празаіку Алесю Савіцкаму. Падаравана аднакласніцай Т. Мышкінай падчас сустрэчы выпускнікоў СШ № 7 у Полацку.

***Дзе гэта можна ўбачыць: Мінск, вуліца Максіма Багдановіча, 13.***

Фота Ганны КІРЭНКА

# Песня і лета

## 1. Загучала песня

Яна нарадзілася недзе далёка ад нас, пад бязмежным вольным высокім блакітным небам, пад белымі-белымі лёгкімі аблокамі, у самай загадкавай і вабнай далечыні.

А потым яна ляцела. Ляцела разам з мяккімі хмарамі і жвавымі птушкамі, ляцела са свавольнікам-ветрам і дзіцячым смехам, ляцела з цёплымі размовамі і з іншымі песнямі.

Яна злівалася з рэкамі і срэбрам рассыпалася па бліскучых камянях, шаптала ў зялёным лісці чароўныя казкі, перапляталася з залатымі сонечнымі промнямі і шчодра сагравала зямлю.

Песня чулася ў кожным подыху, адчувалася ў кроках, бачылася ва ўсмешках. Яна ціхенька датыкалася да чалавечых сэрцаў, пяшчотна ахінала іх. Песня знаходзіла водгук нават у скамянелых душах, рабіла іх мякчэйшымі, больш чулымі.

Яе падхоплівалі, спявалі на розных мовах. Кожны ўкладваў у Песню свае пачуцці, расказваў пра найдаражэйшыя мары. Здавалася, што Песню стварыў нехта неверагодна магутны і мудры. Альбо ўсе-ўсе людзі разам: вялікія і маленькія, шчырыя і простыя. Ці, можа, саткалася яна з летніх дажджоў і цёплага паветра, з шуму марскіх хваль і з яскравых красак…

Яна ляцела. Праз імгненні ў вечнасць, цераз жыццё.

Яна ляціць. Зусім побач. Усюды.

Прыслухайся.






# 2. Песню пачулі

Музыка, якая ляцела праз вякі і імгненні, якая напаўняла сабою прасторы Вечнасці, нячутна і няўлоўна шаўковай ніткай пранізвала пацеркі чалавечых жыццяў, раптам апусцілася на зямлю цёплым летнім дажджом.

Шэра-празрыстай завесай ахінула яна, здавалася, увесь свет. Мноствам маленечкіх зіхатлівых кропелек заскакала па сакавіта-зялёных лісточках, зазвінела на люстры азёраў, зашаптала ў мядовым водары красак.



Песня доўга і радасна шапацела за халодным аконным шклом, ціха чакаючы, рыхтуючыся да нечага…

І ў адзін момант усё ажыло. Свежае паветра напоўнілася Песняй, узнёслай і гучнай. Промні сонца заслізгалі па вільготнай зямлі, дадалі высокія і трапяткія ноты. Дождж скончыўся.

Непрыкметна напаўзаў вечар. Неба афарбавалася мяккім аранжавым колерам, доўгія цені ўслалі наваколле.

Песня цішэла.

Паступова апускалася ноч. Цёмна-сіняе неба аказалася ўсыпаным мільярдамі зорак, вялікіх і маленькіх, срэбраных і рознакаляровых. У іх чароўным мільгаценні зноў адчулася Песня. Ціхая, як і вечарам, яна пранізвала начное паветра, зазірала ў дзіцячыя сны, напаўняла іх шчаслівымі вобразамі.

Песня блыталася ў цёмных ценях, плыла ў месячным ззянні, блукала сярод сонных хат, была адначасова і ледзь чутнай, і аглушальна грымотнай.

Нябёсы кранулі першыя промні сонца. І свежае паветра зноў напоўнілася песняй, узнёслай і гучнай.

Песняй, якую склала лета.




***Ірына РАДЗІХОЎСКАЯ,***
***11 клас, Дворнасельская СШ, Міёрскі раён***

# Лёс хлопчыка вайны

Мой дзядуля Міхась, які жыве ў Рагачове, расказаў адну цікавую гісторыю ваеннага часу пра гераічныя справы хлапчука з вёскі Каменка.

Звалі яго Міша Марчанка, не было яму яшчэ і чатырнаццаці гадоў. Ён супрацоўнічаў з партызанамі — перадаваў народным мсціўцам сабраныя ім на месцах баёў зброю і боепрыпасы. Ад партызан Міша забіраў лістоўкі і разносіў па навакольных вёсках. Так працягвалася да пятага чэрвеня 1943 года.

У тую раніцу Міша прыгнаў каня з пашы і лёг адпачыць. Прачнуўся ад выбухаў.

— Хутчэй хавайцеся! — пачуў ён голас сястры Ганы. Мама ў той дзень пайшла ў суседнюю вёску.

Дзеці — тры Мішавы сястры і два браты — пабеглі хавацца ў акоп. А снарады ляцелі, са страшэнным грукатам узрываючыся на вуліцах вёскі. Хата Марчанкаў,











якая стаяла на ўскрайку, загарэлася ад прамога пападання. Чорны дым узняўся слупам, зашугала полымя, а потым загарэліся іншыя будынкі.

Толькі абстрэл скончыўся, як раптам над акопам пачулася:

— Рус, вылазь!

Вылезлі спалоханыя заплаканыя дзеці, жанчыны. Тут хавалася больш за дваццаць чалавек.

— Зноў туды хавайцеся! — пачуўся новы загад. І як толькі ўсе саскочылі ў акоп, страшэнны выбух страсянуў наваколле. Гэта гітлераўцы кінулі ў акоп гранаты. Потым яны разбурылі саламяны дах лазні і накідалі ў акоп саломы, аблілі яе бензінам і падпалілі. Міша чуў вакол сябе жудасны крык, стогны параненых. Ён сабраўся з сілай і выскачыў з акопа.

У Мішы гарэлі шапка і ватоўка, ён скінуў іх з сябе і пабег. Чуў за сабой аўтаматную чаргу. Хлопчык, не памятаючы сябе ад болю і страху, імчаў па палаючай вёсцы, а потым ускочыў у склеп, дзе хаваліся яго цётка Агата і дзеці.

На другі дзень партызаны перавезлі хлопчыка ў суседні Буда-Кашалёўскі раён. Там яго лячыла цётка Марфа, якая да вайны працавала медсястрой.

Раны загаіліся толькі ўвосень, але з адной бяды Міша трапіў у другую. У вёсцы стаяў нямецкі гарнізон. Фашысты схапілі пятнаццаць заложнікаў, сярод якіх быў і Міша, іх павінны былі расстраляць, калі на немцаў нападуць партызаны. Хлопчыку ўдалося ўцячы. Разам з маці ён стаў жыць у сямейным партызанскім лагеры. А неўзабаве Чырвоная армія вызваліла родныя мясціны.

Пасля вайны Міхаіл Марчанка жыў і працаваў у Рагачове. На ўласныя сродкі пабудаваў у вёсцы Каменка помнік тым людзям, якія загінулі ў час вайны. А сам часта сустракаўся з моладдзю, расказваў пра гераізм партызан і савецкіх воінаў, пра страшэнныя выпрабаванні, якія выпалі на долю беларусаў.

Міхаіл Данілавіч Марчанка, які ў дзяцінстве быў партызанам, памёр некалькі гадоў таму.

***Анастасія ЗАХАРЭВІЧ,***
***7 клас, СШ № 77, Мінск***

*Казкі школьнага ранца*

# Добры павучок

У адным лесе жыў маленькі Павучок. Кожную раніцу ён прачынаўся і пачынаў працаваць, а работа Павучка была ў тым, што ён плёў павуцінне. Вельмі падабаўся яму гэты занятак.

Аднойчы Павучок вярнуўся з працы асабліва ўзрадаваным.

— Падумаць толькі! — усклікаў ён пры гэтым. — Сёння я сплёў неверагодна прыгожае павуцінне!

Ён памыў лапкі ў кропельцы расы і пачаў вячэрыць. Раптам прыбег да Павучка ягоны сябар Мураш і кажа:

— Павучок, дапамажы, калі ласка, нам! Мы не ведаем, як быць!

— А што ў вас здарылася? — устрывожыўся Павучок.

— Мы рамантуем мурашнік, — растлумачыў Мураш. — Але не паспяваем, а хутка сцямнее і нічога не будзе бачна!









— Добра! — адказаў Павучок. — Я прыдумаю, як вам дапамагчы.

Мураш пабег узрадаваны, а Павучок стаў думаць. Думаў ён, думаў, ды так нічога і не прыдумаў.

Засмуціўся Павучок і вырашыў прагуляцца. Выйшаў з хаткі, бачыць: нешта свеціцца. Зацікавіўся Павучок, падышоў бліжэй і зразумеў, што гэта светлячкі.

— Чаму б мне не сплесці вялікае павуцінне, а светлячкі б маглі на яго залезці і асвятляць мурашнік! — узрадавана ўсклікнуў Павучок.

Так добры Павучок і зрабіў. А мурашы яму вялікі дзякуй за гэта сказалі.





***Аляксей КУРАЕЎ,***
***7 клас, гімназія № 75, Мінск***

# Кот Васька і лічэбнікі

Аднойчы кот Васька злавіў пяць мышанят. І кажа ім:

— Вось я вас зараз з'ем!

А мышаняты ў адказ:

— Пачакай нас есці, кот Васька. Мы табе спачатку раскажам цікавую казку пра лічэбнікі!

— А што гэта такое? — здзівіўся Васька.

— Вось паглядзі, — кажуць мышаняты. — Колькі нас зараз?

— Пяць! — адказвае кот.

— Гэта называецца колькасныя лічэбнікі, — патлумачылі мышаняты. — А вось зараз мы будзем па парадку знікаць, а ты нас лічы!

— Першая… — пачаў лічыць Васька, калі адна з мышак схавалася ў норцы. — Другая… Трэцяя… Чацвёртая… Пятая… Ах, які ж я дурань!

Апошняя мышка высунулася з норкі і сказала:

— А гэта называецца парадкавыя лічэбнікі!

І зноў знікла.

Так кот Васька застаўся без абеду. Але затое ён цяпер ведае, што такое лічэбнікі.

***Эмілі СІВАЧОВА,***
***8 клас, гімназія № 75, Мінск***

# Маміна казка

— Мама, раскажы казку, — папрасіў Максімка.

— Якую ж табе расказаць? — задумалася маці.

— Самую цікавую. Новую казку.

Усе казкі, якія толькі ведала, маці ўжо расказала Максімку. Пра што ж распавесці?





— Раскажу табе, Максімка, чарадзейную казку. Жыў-быў хлопчык. Было ў яго шмат цацак. Але не шанаваў хлопчык цацкі. То там згубіць, то тут кіне… Ламаў, калечыў… Аднойчы, калі хлопчык заснуў, разгаварыліся паміж сабой цацкі. Скардзіліся на хлопчыка, жаліліся адна адной:

— Дарагі Слонік, — казаў Мядзведзік, — каб ты ведаў, як мне балюча. Калі мяне прынеслі сюды з крамы, я быў здаровы, прыгожы, вясёлы. Я ўмеў сядзець, любіў радасна рыкаць гаспадару прывітанне… А цяпер глянь на мяне. Лапы адной няма, сядзець ужо не ўмею, радасна рыкнуць не магу. Ледзь атрымліваецца «б-э-э-э». Гэты маленькі нягоднік прапароў мне нечым вострым спіну.

— І мне нялёгка, — цяжка ўздыхнуў гумовы Слонік. — Мой гаспадар паабгрызаў мне вушы, адарваў хобат. А яшчэ хлопчык бярэ мяне з сабой у ванну. Я разумею, што мыцца трэба! Але ж навошта набіраць ў мяне вады і забываць пра гэта? Стаю поўны вады некалькі дзён, пакуль маці хлопчыка не выратуе мяне. Я хоць і з гумы, але ўсё роўна не вельмі прыемна.


*Мастачка Рагнеда ЮРГЕЛЬ*

— Сябры, паглядзіце на мяне, — падаў голас Зайчык. — Спачатку хлопчык любіў мяне, браў з сабой усюды. А потым… ён пакінуў мяне на балконе. Дождж, маланка! Што мне давялося перажыць! Калі на наступны дзень узышло сонца, ад майго шаўкавістага і мяккага футра нічога не засталося. Увесь зморшчыўся, стаў шэры і брудны!

Доўга яшчэ між сабою размаўлялі цацкі. Скардзіліся і плакалі. А хлопчык спаў. І не чуў іх размовы. Ён, напэўна, салодкія сны бачыў, — закончыла свой аповед маці.

— І ўсё? — спытаў Максімка.

— Усё! — адказала маці.

— Гэта казка без заканчэння? — здзівіўся хлопчык.

— А ты прыдумай заканчэнне сам, — адказала маці і заспяшалася на працу.

Калі маці вярнулася дадому і зазірнула ў Максімкаў пакой, то ўсе цацкі стаялі на сваіх месцах. У Мядзведзіка была зашыта спіна і прышыта лапа. Слонік стаяў чысты і прыгожы, з прыклееным хобатам. Зайчыка хлопчык вымыў і расчасаў.

— Правільнае заканчэнне прыдумаў, — усміхнулася маці.



***Ягор АБАНОВІЧ,***
***9 клас, СШ № 9, Маладзечна***



*Прадстаўляе клуб «Пегасік»*

*Малюнак Вікторыі ХМУРОВІЧ, СШ № 1, Мінск*

**З 2005 года ў Забалацкай сярэдняй школе Воранаўскага раёна існуе літаратурны клуб «Пегасік», кіраўніком якога з'яўляецца настаўніца беларускай мовы і літаратуры Валянціна Уладзіміраўна Коцік. Члены «Пегасіка» — дзеці рознага ўзросту, дэвіз клуба: «Ні дня без радка».**

## ДОМ З ПЯСКУ

Я будую дом з пяску!
Клічу ўсіх на талаку.
Будзем дружна працаваць,
Дом прасторны будаваць.

Гэй! Сюды бяжыце ўсе!
Памажыце дружна мне!

Вось бягуць Валодзька, Янка.
Дзімка, Сашка і Таццянка,
Валька, Юлька і Наташка
І зусім маленькі Пашка.

Збудавалі дом вялікі.
Хопіць месца нам усім.
Але тут пачаўся лівень
І размыў пясок зусім.

Ды мы рук не апускаем,
Зноў будоўлю пачынаем!

## НА РЫБАЛЦЫ

Пайшоў лавіць я рыбу
За вёску на раку.
Закінуў вуду ў рэчку
І ціхенька сяджу.

Тут выплываюць жабкі,
Каб песню праспяваць.
А ў песні той пяецца:
— Давайце сябраваць!

А ўслед за імі рыбкі,
І сталі танцаваць.
І танцам быццам кажуць:
— Давайце сябраваць!

Канцэрт паслухаў добры.
На танцы паглядзеў…
Але лавіць я рыбу
Пасля не захацеў.

***Яўген МАРМЫШ***

## ЛЕТНІЯ КАНІКУЛЫ

Зноў летнія канікулы
Пачнуцца хутка ў нас.
Да верасня наступнага
Пакінем родны клас.

У рукі мячык возьмем —
Згуляем у футбол!
І толькі вечар позні
Пашле апошні гол.

Чакаў я доўга лета
І сонца, і дажджу,
Бо босым сярод кветак
Прабегчыся хачу!

*Павел НАЙМОВІЧ*

І бэзу куст,
Бо мы яго з табой,
Калісьці
Каля школы пасадзілі...

*Вікторыя МАРУШКА*

## КАНЕЦ ЛЕТА

1

Адыходзіць лета.
Птушкі адлятаюць.
Гаспадыняй восень
Хутка завітае.
Сабраліся разам
Ластаўкі ў чароды,
Пакідаюць сумна
Родную прыроду.

2

Вось ляціць высока
Клінок жураўліны,
Свішча па-над крыламі
Ветрык-вецярок.
Поле сцеліць восень
Белым павуціннем.
Хутка лета зробіць
Свой апошні крок.

*Анастасія КУЗЬМІЧ*

## МОЙ КРАЙ

Мой край!
Чароўны, родны,
Любы край.
Люблю я лес твой,
Луг, зялёны гай.
Люблю раку,
Сасоннік за ракой
(Туды ў грыбы
Заўсёды мы хадзілі).

## АПОШНІ ПАЛЁТ

Ляціць лісток апошні
Над чорнаю зямлёй.
Па-над пажоўклай пожняй,
Над домам, нада мной.

Яго вятрыска ўдалеч
Нясе ў нязнаны кут…

Калі ж прыляжа нанач —
Навек засне ён тут.

*Дзяніс КОЗІК*

## ЗІМА

Кружыцца ў вальсе белым
сняжынак карагод.
Прыйшла зіма-ўладарка
да нас і ў гэты год.
Ўзяла сяброў з сабою:
завею і мароз.
Іскрыцца ўсё навокал
Да самых да нябёс.

А як засвеціць сонца,
уздымецца настрой
І нас зіма пакліча
на горку за сабой.
Як весела катацца
На саначках з гары,
Ніколі не забудзем
мы зімняе пары.

*Анжэла БУЙКО*

*Напішы як Юлія Адамовіч – і станеш аўтарам калонкі!*



*Юлія Адамовіч, 11 клас, гімназія № 1, Чэрвень*

# Гадзіннік жыцця



Ніхто дакладна не ведае, чаму ён нарадзіўся, якую місію яму трэба выконваць на Зямлі, што такое радасць, шчасце, любоў. Апошнім часам мяне турбуюць незвычайныя пытанні, на якія я ўпарта шукаю адказы.

Чаму людзі заўсёды спяшаюцца? Так закладзена прыродай ці мы вінаваты ў тым самі? Мітусімся, бяжым, калі думаем пра тое, што чакае нас наперадзе. А потым зноў бяжым, яшчэ шпарчэй, быццам гуляем навыперадкі адзін з адным. Хтосьці спяшаецца на сустрэчу з каханай, хтосьці — на важныя перамовы. Адны ідуць з радасцю і ўсмешкай, іншыя — без жадання, са злосцю. Але ці ёсць сэнс у пастаяннай спешцы?

Хаця я і сама не магу сядзець на месцы. Часта шукаю занятак, каб час прайшоў хутчэй. Сама не заўважаю, як прыспешваю яго, а потым, гледзячы на гадзіннік, здзіўляюся: як хутка мінуў дзень!

Не памылюся, калі скажу, што амаль кожны з нецярплівасцю чакае важнай даты ці любімай пары года. Са мной гэта адбываецца заўсёды: хутчэй бы святы, зіма, лета! Лічу дні, гадзіны, хвіліны…

І, што дзіўна, амаль кожны месяц прыходзіцца пераводзіць стрэлкі наручнага гадзінніка крыху назад. Чаму? Таму, пэўна, што сама хачу, каб усё прайшло як мага хутчэй: чарга ў краме, цяжкія будні, непажаданыя сустрэчы. А час, жорсткі і няўмольны, гоніцца за мной...

Вось так і ўзнікаюць думкі. Я пачынаю цаніць час, бо калі непажаданае пройдзе хутка, то і вокам міргнуць не паспееш, як зразумееш: усё шчаслівае таксама страчана беззваротна.

Нам не трэба спяшацца, каб дагнаць час, бо ён усё роўна пераганіць нас. Найлепшы спосаб ісці ў нагу з часам — планаваць кожную хвіліну, але ж ці такое магчыма? Можа, лепш проста заўсёды займацца толькі любімай справай? Дыхаць на поўныя грудзі, назіраць за зменамі ў прыродзе, радавацца кожнай дробязі. Трэба жыць сапраўдным, цаніць кожную хвіліну, рабіць свой дзень павольным і незабыўным.

Вы скажаце, што мой гадзіннік спяшаецца з-за няспраўнасці і я магу гэта выправіць. Але ж гадзіннік жыцця ніхто не зможа перавесці назад.

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь
РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»
прадстаўляюць

Ад рэдактара часопіса «Бярозка» Генадзя Аўласенкі
З удзелам мастака Аксаны Аракчэевай
У серыі «Пра бяспеку — дзецям»




**Новая кніга ў трох частках**
**з пралогам і парадамі для дарослых замест эпілога**

Казачная павучальная гісторыя пра сяброў-звяроў — мядзведзіка Таптыжку, зайчаня Тарапыжку, барсучаня Борку, бабраня Цішку, саву па мянушцы Мудрая Галава, а таксама хлопчыка Мікітку, якога пералічаныя героі знайшлі на лясной палянцы, калі той сядзеў на пяньку і горка плакаў. Пра тое, як арыентавацца ў лесе, пазнаваць ядомыя і ядавітыя грыбы і ягады і што яшчэ ведаць і памятаць, апынуўшыся ў лесе.




## ТАКСАМА Ў ГЭТАЙ СЕРЫІ

Пра тое, якім павінен быць дзіцячы пляж, як паводзіць сябе ля вады і на вадзе, як навучыцца плаваць і што рабіць, калі ў вуха трапіць вада або здарыцца сонечны ўдар.

***Замовіць гэтыя кнігі можна:***
- па тэлефонах: 8-017-284-79-65, 8-017-288-12-94 (факс)
- адправіўшы заяўку на адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
- адправіўшы заяўку на электронны адрас: marketing@yandex.by



*Ганна Варонка,
10 клас, гімназія № 1,
Свіслач
(Гродзенская вобласць)*

*Напішы як Ганна Варонка — і станеш аўтарам калонкі!*

# Каб падоўжыліся дні твае на зямлі

Жыву я ў вёсцы. Калі была маленькай дзяўчынкай, у мяне была сяброўка. Не, не майго ўзросту, а старая бабуля. З аднагодкамі я гуляла ў дзіцячыя гульні, а да бабы Веры прыходзіла пагаварыць. Яна ўмела выслухаць, даць параду, расказаць пра сваю маладосць. Памерла баба Вера, і каб захаваць добрую памяць, мне хочацца расказаць яе гісторыю.

Сваю дачку яна нарадзіла позна — доўгачаканай была дачушка. І таму жанчына рабіла ўсё, каб яе дзіця ні ў чым не мела патрэбы. Дзяўчынка расла добрай, разумнай, выдатна вучылася ў школе. Скончыла таксама і музычную школу, потым вывучылася на настаўніцу, выйшла замуж, нарадзіла дзяўчынку і хлопчыка. Жыві і радуйся. Але ў сям'ю завітаў няпрошаны госць — алкаголь. Шлюб распаўся, маладую жанчыну выгналі з працы, а на чарговыя канікулы яна прывезла дзяцей у вёску да маці без рэчаў і дакументаў. З горам напалам баба Вера пачала падымаць унукаў, але неўзабаве вярнулася сама дачка. Памятаю, аднойчы забегла я праведаць бабулю і яшчэ на дарозе пачула крык. Дачка патрабавала грошай і выганяла маці з хаты. На ўсё жыццё ў памяці засталіся вочы бабы Веры: блакітныя, светлыя і разумныя. Яны глядзелі на мяне з непрыкрытым сорамам, адчаем, жахам і просьбай аб дапамозе. Але чым магла ёй дапамагчы малая дзяўчынка? Мая мама неаднойчы абараняла бабулю ад гора-дачкі, але старая жанчына часта хадзіла з сінякамі.

Памерла мая сяброўка ў доме для састарэлых людзей. Не склаўся лёс і ў яе ўнукаў: унучка некуды знікла, а ўнук скончыў жыццё самагубствам у шаснаццаць гадоў. На мой погляд, гэта найвялікшая трагедыя — разумець, што цябе крыўдзіць не чужы чалавек, а твой родны. Што падымае руку на цябе твая дачка, тая маленькая дзяўчынка, якой ты чытала казкі, заплятала стужкі ў касічкі, якую карміла кашай…

Хатніх тыранаў нават не заўсёды заўважыш. Гэтыя істоты жывуць падвойным жыццём. Для іх яно складаецца з дня і ночы не ў звыклым разуменні гэтых слоў. Днём яны — звычайныя, як і ўсе, магчыма, нават лепшыя за іншых, «белыя». Як у прытчы Янкі Сіпакова «Перавернуты». Нездарма герой прытчы не безыменны, а Бяляй. Такім яго ведаюць калегі і суседзі. Але дома ён іншы чалавек. Адным з самых распаўсюджаных спосабаў стаць «перавернутым» з'яўляецца алкаголь.

Гэта страшэнны грэх — крыўдзіць чалавека, але ў тысячу разоў цяжэйшы грэх — калі мы робім зло сваім бацькам. Гэта даказвае пятая запаведзь з Бібліі: «Шануй бацьку твайго і маці тваю, каб падоўжыліся дні твае на зямлі, якую Гасподзь, Бог твой, дае табе».

*Напішы як Ксенія Сасніна — і станеш аўтарам калонкі!*

# Папяровая ці электронная?


Ксенія Сасніна, 11 клас, ліцэй № 2, Мінск

Мая любоў да чытання бярэ пачатак з дзяцінства. Я расла — і кнігі раслі. Раслі і магчымасці гэтага свету — так у мяне з'явілася электронная кніга. А разам з ёй пытанне: якая лепш — папяровая ці электронная? І я паспрабавала расставіць іх па паліцах.

## ЭЛЕКТРОННАЯ

***Плюсы:*** *кампактная, лёгка браць з сабой; можа адна ўтрымліваць тысячы кніг; па жаданні можна змяняць шрыфт, фон, фармат вываду на экран, які, да таго ж, не стамляе вочы; хуткі пошук па тэксце, імгненныя закладкі і слоўнік — вельмі зручныя опцыі; не патрэбна папера, для вытворчасці якой высякаюцца лясы.*

Я вельмі асцярожна стаўлюся да пакупкі папяровых кніг, якія яшчэ не чытала. Хто ведае, мо змест кніжкі мне не спадабаецца. І што пасля рабіць? З электроннымі значна прасцей: захацеў прачытаць — запампаваў, не спадабалася — выдаліў і забыўся.

***Мінусы:*** *такія кнігі лёгка пашкодзіць; іх могуць скрасці; яны патрабуюць перыядычнай падзарадкі; няма адчування сапраўднай кнігі ў руках.*

Гэта крыху дзіўна, але многія людзі аддаюць перавагу папяровай кнізе менавіта па эстэтычных меркаваннях.

## ПАПЯРОВАЯ

***Плюсы:*** *можна перагортваць старонкі, чуць іх шамаценне і бачыць, колькі прачытана, атрымліваць асалоду ад паху, засушваць лісточкі і кветачкі; можна назбіраць вялікую бібліятэку і адчуваць сябе вельмі разумным.*

***Мінусы:*** *папяровая кніга часцяком бывае непад'ёмнай, і узяць яе ў дарогу робіцца немагчымым; колькасць кніг, якія можна ўзяць з сабой, заўсёды абмежавана; нішто не вечна, і папяровая кніга таксама прыходзіць у непрыдатнасць; яе могуць папрасіць пачытаць і ніколі не вярнуць.*

На змест кнігі ніякія плюсы-мінусы ўсё роўна не маюць уплыву. Тым жа, хто хвалюецца за будучыню папяровай кнігі, я раю адкінуць забабоны. Тэлевізар не замяніў тэатр, а музычныя пласцінкі не зжылі жывой музыкі.


Алена Марціновіч

*Напішы як Алена Марціновіч – і станеш аўтарам калонкі!*

# Гатункі натхнення

Натхненне бывае розным. У яго мноства праяў і адценняў. Яно бывае цяжкім і маркотным, сталёвым — калі ў жыцці ўсё ідзе значна горш, чым табе б хацелася, і гэта цягнецца такі доўгі час, што, здаецца, ужо немагчыма трываць. Але, кажуць, адштурхнуўшыся ад дна, падымешся на паверхню. Гэтак і атрымліваецца: у цябе нібы з'яўляецца другое дыханне, увесь негатыў, што назбіраўся ўнутры, выходзіць і пераўтвараецца ў музыку, карціны, вершы, прозу. Ці мала што яшчэ? Надзвычайнае пераўвасабленне.

Натхненне бывае светлым, лёгкім, як прахалода летняга ветрыку ці першы подых надыходзячай вясны. З ім лёгка і прыемна жыць, у такім стане ты нібы лётаеш. Адкуль яно з'яўляецца? Часам невядома. Проста з паветра. Здзіўляючы і захапляючы. І ты неабавязкова пішаш вясёлыя творы ці малюеш сонечныя карціны, ты можаш стварыць нешта вельмі сур'ёзнае ці нават змрочнае, але на душы ў цябе будзе лёгка.

Галоўнае ў такія светлыя часіны не ленавацца, брацца за справу адразу ж. Ляноту адзначу галоўным ворагам творцы. Калі яе перамагаць, можа з'явіцца яшчэ адзін гатунак натхнення. Тое, што прыходзіць не само па сабе, а ў працэсе, падчас працы. Выклікана самім аўтарам, вынік дысцыпліны і ўпартасці.

Натхняць могуць розныя рэчы. І людзі. Мабыць, цікавы для цябе чалавек — нейкая значная, знакамітая асоба, яго ўчынкі — захапляюць і ўражваюць. Гэта цудоўна, у гэтым няма фанатызму, бо ты не ідэалізуеш тую асобу, а толькі чэрпаеш натхненне.

Калі ж пачынаеш захапляцца чалавекам знаёмым, гэта можа прынесці шмат праблем. Часам менавіта з цікавымі нам людзьмі стасункі не ладзяцца: няма ні кантакту, ні перспектывы. А калі і ёсць, то, бывае, выкрываецца «абаротны бок».

Чым яшчэ пагражаюць такія стасункі? Тым, што нехта адзін можа замяніць табе ўвесь навакольны свет. Адным сваім словам узняць ці сапсаваць табе настрой.

Калі стасункі рвуцца, табе дрэнна. Але потым становіцца неяк нават свабадней. Раней ты нібы глядзеў на свет праз шчылінку, цяпер ён — як на далоні. Цяпер у цябе можа быць добры ці дрэнны настрой у залежнасці ад розных здарэнняў, а не з-за канкрэтнага чалавека. І ты ловіш сябе на думцы: «Няхай бы так было заўжды». А ці правільна гэта? А можа, дае нам штосьці важнае такое выпрабаванне стасункамі і натхненнем?

Я ведаю: у жыцці бывае ўсё. І цяжкасці, што прымусяць цябе «адштурхнуцца ад дна», і светлая лёгкасць, і значныя асобы, і цікавыя людзі — усё. І з усяго можна вынайсці натхненне. Дачакацца або адшукаць.

# Гульні розуму




*Прывітанне, дружа! Як жа я засумаваў па табе! Нават хацеў прысніцца, але замест гэтага раптам захапіўся ідэяй расказаць сёе-тое пра таямніцы сноў.*

Да цябе прыходзяць сны? Якія яны? Яскравыя? Смешныя? Дзіўныя? Часцяком начныя бачанні дапамагаюць нам зразумець розныя рэчы, а некаторыя ўвогуле ўмеюць спраўджвацца. Ты мне не верыш? Дарэмна! Я раскажу табе выпадак з гісторыі, а гісторыя — навука сур'ёзная, з ёю цяжка спрачацца.



Мастачка Рагнеда ЮРГЕЛЬ

*Амерыканскі прэзідэнт Аўраам Лінкальн быў забіты акцёрам Джонам Уілкам Бутам, калі глядзеў спектакль. За колькі дзён да забойства ён бачыў вельмі трывожны сон. Ён бачыў, як ідзе па Белым Доме, дзе няма ні душы. Потым свядомасць падказала, што людзі тоўпяцца ля кутняга пакоя. Аўраам спытаў салдата: «Што там адбываецца?» і той адказаў: «Тут труна з прэзідэнтам, яго забілі ў тэатры».*

Кажуць, што прарочыя сны завітваюць да нас пад поўняй. Шкада, што сам я не магу гэта праверыць, бо не сплю ўжо даўно-даўно. Але мо ты, дружа, распавядзеш мне пра свае сны? Я з радасцю іх паслухаю, а самымі цікавымі падзялюся з нашымі сябрамі. Вось зірні, што мне ўжо расказалі твае аднагодкі.

## СОН ВЕРАНІКІ

— У маім сне мы з аднакласнікамі стралялі адно ў аднаго варэннем з пісталетаў. Адзін хлопчык зарадзіў адразу паўшклянкі і стрэліў у столь. Столь ад'ехала, а за ёю адкрылася чарната, і нас пачало падымаць. Мы доўга так «ехалі», пакуль не паказалася святло. Нам вельмі хацелася даведацца, што гэта так свеціць, але я прачнулася…

## СОН МАШЫ

— У сне да мяне прыйшоў мядзведзік Барні і сказаў: «З'еш мяне, я бананавы! А я адказала: «Я ем толькі шакаладных». Тады мядзведзік праглынуў мяне і сказаў: «Вось бачыш, я ж не задавака!»

## СОН КРЫСЦІНЫ

— Мне прыснілася, што мы з сяброўкай катаемся на вадзяных горках у аквапарку. Раптам усе выхады зніклі, а сама горка пачала сціскацца. Нас ахапіў жах: што рабіць?! Ад панікі я і прачнулася.

***Да сустрэчы, дружа! Чакаю тваіх гісторый! Аркаша.***

# Падарожжа па Мужыцкім свеце: не ўсё так сумна

*7 і 8 класы*



Мастачка Юлія УСАВА

Чамусьці літаратурныя падарожнікі стараюцца праскочыць сусветы Купалы і Коласа ў наглуха зачыненай брычцы кароткага пераказу, а то і проста прамінуць. Спрацаваныя сяляне ды курныя хаціны не надта цікавыя для кніжнага турыста: экстрыму малавата. Што ж, Мужыцкі свет беларускіх класікаў нельга глядзець на сучасных хуткасцях, яго містычная рэальнасць нетаропкая і памяркоўная. Таму, паважанае спадарства, запасіцеся цярпеннем, абуйце новыя лапці, пакладзіце акраец хлеба ў торбу — мы выпраўляемся ў падарожжа па вузенькіх сцяжынках «Адвечнай песні», міма таямнічага «Кургана» і яшчэ далей, па слядах «Сымона-музыкі».

## ПРЫПЫНАК ПЕРШЫ. ХТО СЯДЗІЦЬ У ВЕРБАЛОЗЕ?

З таго часу, як вандроўнік зрабіў крок на нівах і пожнях Мужыцкага свету, за ім назіраюць пільныя вочы. Проста спадары Беларускія Класікі шчодра надзялілі свае краявіды жыццём. Хочаш адпачыць пад разлапістым дубам — май ласку спытацца, ці не перашкаджаеш ты дрэву сніць стагадовы сон. Яно і вядома, не хочацца застацца ў памяці дрэў, траў, жывёл недарэкам і невукам.

Ноччу ля цяпельца вам будуць спяваць калыханкі зоры і старыя яліны. А яшчэ — кугікаць пугач. Падазрона шапацець вецер. У асабліва запушчаным выпадку — рагатаць русалкі. Наогул, розныя духі, цені, здані ў тагачасных паэмах і вершах справа такая ж звычайная, як для нас камары ў летнім лесе.

## ПРЫПЫНАК ДРУГІ. КОЛЬКІ СЛОЎ ПРА ГАСЦІННАСЦЬ

Па сцежцы, зарослай травой, вы абавязкова выберацеся да вёсачкі. Палі, напалам са збажынай, напалам з лебядой, дымок над стрэхамі і самі пачарнелыя стрэхі стануць беспамылковым арыенцірам. Вёсачка небагатая, і народу там наўрад ці будзе многа — мужыкі з раніцы шчыруюць у полі, адбываюць пан-

шчыну ці занятыя яшчэ якой справай. Калі ж вы патрапіце на святочны дзень, то зможаце ўбачыць вялікую сям'ю беларускага мужыка. Акрамя гаспадара, старога бацькі і стомленай жонкі па лаўках і на печы хаваецца тузін дзяцей — белагаловых, гарэзлівых і галодных. Вас пачастуюць грачанымі блінцамі і гісторыямі. Зрэшты, плаціць за гасціннасць таксама давядзецца байкамі ды ўспамінамі з багатага на прыгоды бадзяжнага жыцця. Наогул, нашыя літаратурныя продкі адносіліся да падарожных з вялікай павагай, нават калі яны выглядалі апошнімі валацугамі. І хаця хлеб жабрака не назавеш салодкім — ім пасляхова гадаваліся розныя персанажы тагачасных твораў.

## ПРЫПЫНАК ТРЭЦІ. ЗАДУМЕННЫЯ ЧАРАЎНІКІ

Пакуль іншыя торгаюць мамку за падол, выпрошваючы аладку, ці скопам гуляюць на вуліцы, гэтае худзенькае вялікавокае хлапчанё будзе ўглядацца нявідзячым зрокам у навакольныя абшары. Яшчэ стане цікавіцца раслінамі, кузуркамі, зачаравана прыслухоўвацца да далёкага звона на старой цэрквачцы і складваць дзіўныя гісторыі, падобныя да казак ці прытчаў. Бацькі звычайна такіх не любяць, як недалюбліваюць і астатнія вяскоўцы. Дрэнная звычка сына сыходзіць у сябе часам уводзіць бацькоў у растраты: то за статкам недагледзіць малы пастушок, то недачуе бацькоўскае слова. Але гэта толькі цяпер ён — нікому непатрэбны недарэка, праз год (ці дзесяць год, залежыць ад сюжэта) ён абавязковаператворыцца ў легендарную асобу. Яму непатрэбны палацы і багацце, больш усяго на свеце такі чалавек цэніць свабоду. Багатая фантазія і чуйная душа робіць яго бясцэнным суразмоўцам. Трэба толькі змірыцца з яго звычкай нейкі час маўчаць перад адказам і сумна паглядаць кудысьці ўдалячынь.

## ПРЫПЫНАК ЧАЦВЁРТЫ: НЕЗАМЕННАЯ РЭЧ

Куды б ні вялі падарожнага сцяжынкі, абавязкова давядзецца трапіць у глухую мясціну. У гэтым выпадку спатрэбіцца кій — верны памочнік вандроўніка. Па-першае, на яго добра вешаць вузел з няхітрым скарбам, а ў летнюю пару — лапці ці боты. Прайсціся басанож па траве — неверагоднае задавальненне, тым больш, тады людзі яшчэ не мелі звычкі кідаць абы-дзе бляшанкі і паперкі.

Па-другое, на моцную палку можна абаперціся, калі стомяцца ногі. Яна ж засцеражэ вопытнага падарожнага ад ненадзейнай купіны на балоце, не дасць праваліцца ў зарослы травою яр ці проста саб'е ў рукі спелы яблык-дзічку.

Па-трэцяе, кій стане зброяй на выпадак сустрэчы з ваўком — самай страшнай пачварай мужыцкага свету. Не, гэтая істота зусім не падобна да шэрых лясных санітараў. Зубасты драпежнік цікуе за сялянскімі статкамі ўлетку і ўзімку, наводзіць жах на пастушкоў і цёмнай ноччу не саромеецца перастрэць адзінокага прахожага на вузкай лясной сцежцы. Асабліва небяспечнымі становяцца ваўкі зімою, пад вечар, калі мяце завіруха. Такія часіны лепш правесці ў цяпле і побач з людзьмі.

## ПРЫПЫНАК ПЯТЫ. МЕСЦА, ДЗЕ ЎСЁ ЗНІКАЕ

Карчма — сапраўды зачараванае месца. Сюды ідзе мужык, калі ў кішэні звіняць медзякі, і сюды ж сунецца, калі там гуляе вецер. Папераменна з адчыненых дзвярэй можна пачуць смех, песні, сваркі, гукі вясёлых танцаў, а то і вэрхал бойкі. Нязвыклы чалавек спачатку доўга не асмельваецца зайсці ў таямнічы паўзмрок

карчомкі, але на самай справе нічога страшнага там няма. Заціснице мацней пад пахай вузел з грашыма — і можаце пераступаць парог. Пакуль у вас ёсць грошы — вы будзеце лепшым сябрам карчмара і паловы заўсёднікаў, гатовых прапанаваць розныя прысмакі і вясёлую бяседу. Канешне, толькі за ваш кошт. Таму, калі вы не хочаце потым хапацца за галаву і падлічваць растраты, лепш прыпыніцца побач з вогнішчам пастуха ці дрывасека. Іх пачастунак будзе небагатым, але шчырым.

Калі вандроўнік мае шляхетны выгляд, а не мужыцкую вопратку, ён можа пашукаць панскі замак. Гэта такая аграмадністая будыніна змрочнага выгляду на бліжэйшай кручы. Хлопам туды, канешне, шлях закрыты. Крыўдныя жартачкі і надзьмутыя твары пойдуць у дадатак да высокіх мураваных сцен і непамернай раскошы. Дарэчы, ледзь не ў кожным такім старажытным муры водзяцца злавесныя прывіды, а каменная кладка наводзіць на гасцей невясёлыя думкі пра цяжкую долю працаўнікоў, што ўзводзілі гмахі. Нават знакамітыя музыкі-чараўнікі не заўсёды маглі саўладаць з панскімі жорсткасцю і пыхай, а таму лепш узгадайце Купалавы «Курган» і абыдзіце замак па вялікай дузе. Падалей ад самадураў.

## СПАДАРОЖНІКІ. ДЗЕД — СЯБАР ЧАЛАВЕКА

Дзяды — яшчэ адна асаблівасць Мужыцкага свету, амаль такая ж выбітная, як абавязковы волат-дуб на рачным беразе. Жвавы дзядок ахвотна апякуецца над дзецьмі, вучыць іх розуму і дорыць важкія падарункі, напрыклад, звонкагалосую скрыпачку. Слухаць старога — адно задавальненне: яго мова складаецца з жартаў, напаўсур'ёзных, але разумных разважанняў і абавязковай прыгаворкі, прыкладу: «Каб я здароў!» ці «Эге ж…» Памяць дзеда хавае безліч легенд, ён і раскажа, і пакажа месцы, дзе любяць цёмнай ночкай прайсціся здані, і распавядзе пра звычкі мясцовага пана, і падкажа лёгкую дарогу паміж вёскамі, і сам ахвотна правядзе цераз гушчар. А што ж вы хацелі, ён у маладосці быў той яшчэ зух!

У адрозненне ад дзядоў, бабулі падчас падарожжа вам не сустрэнуцца. Здавалася б, вось ёсць блакітнавокая Ганна, дзяўчына-красуня, вось завіхаецца ля печы руплівая маладая гаспадыня, вось сталая кабета ў полі жне каласы спрацаванай рукой… А куды ж падзеліся бабкі, што песцяць унукаў, расказваюць ім чароўныя казкі, няўжо перасяліліся ў дамкі знахарак?

Магчыма, сівая бабуля на прызбе сустрэнецца табе, чытач, падчас тваіх літаратурных вандровак, дык нам будзе цікава паслухаць аповед пра гэту сустрэчу.

## У НЕБЕ ХОДЗЯЦЬ ХМАРКІ…

Не было ў нашых літаратурных продкаў такой карыснай рэчы як парасон. Ад дажджу хаваліся пад вярбою ці ў карчме. Альбо моклі, а потым сушылі вопратку каля вогнішча ці на сабе. Не доўга і захварэць. Таму лепш захапіць з сабою невялікі парасончык, хаваць яго ад мясцовых і паглядаць на неба — там блукаюць хмаркі. Як не праслаўляюць спадары Купала і Колас сонечнае святло, а не забываюцца пусціць па нябесным блакіце сваіх твораў колькі хмурынак. Яно і вядома, людзі вандруюць па зямлі, воблакі вандруюць на небе. Добрага вам усім падарожжа!

***Рагнеда ЮРГЕЛЬ***

# Факт, герой, настрой, фактура, узор, выданне, рэдактура,

## або Парады маладому літаратару і самому сабе пра тое, як напісаць пераканаўчае апавяданне



**ФАКТ.** Для пераканаўчага апавядання табе спатрэбіцца факт з рэальнага жыцця. Гэты факт у нейкі момат павінен моцна цябе здзівіць, інакш апавяданне не атрымаецца. Такіх фактаў даволі шмат у кожнай сябрыне і ў кожнай сям'і. Трэба іх згадаць, запісаць і выбраць самы яркі, пра які блізкія людзі згадвалі неаднойчы.

**ГЕРОЙ.** Каб добра пераказаць факт і ператварыць яго ў апавяданне, спатрэбіцца герой. Праз яго трэба весці пераказ. Вачыма гэтага героя чытач будзе глядзець на падзеі, што разгорнуцца ў апавяданні. Самы пераканаўчы герой — ты сам. Добры герой і той, хто пераказваў факт іншым людзям.

**ФАКТУРА.** Свет, у якім дзейнічае твой герой, павінен быць пазнавальным. Пазнавальнасць дасягаецца праз напаўненне тэксту выразнымі дэталямі. Таму варта апісваць месцы, якія ты сам добра ведаеш, помніш і ўяўляеш.

**НАСТРОЙ.** Уласна тэкст можа выклікаць невялікую колькасць настрояў. Таму варта адразу вызначыцца з тым настроем, які ты спадзяешся выклікаць у чытача. Найпрасцей напісаць тэксты, што выклікаюць пачуццё любові, весялосці і спачування. Таму варта пачынаць свой творчы шлях з апавяданняў вясёлых, пра каханне ці сентыментальных.

**УЗОР.** Пісьменнік павінен верыць у сваю зорку, але табе не зашкодзіць чытаць і перачытваць тых майстроў слова, каго лічыш сваімі настаўнікамі.

**ВЫДАННЕ.** Сярод узораў і прыкладаў варта мець не толькі тэксты класікаў, але і творы, апублікаваныя ў свежых перыядычных выданнях. Ты павінен пісаць свой твор з улікам патрабаванняў часопіса, у якім спадзяешся апублікавацца. Ты мусіш не проста азнаёміцца з перыёдыкай, але і добра яе вывучыць. Часопісы «Вясёлка», «Бярозка» і «Маладосць», тыднёвік «ЛіМ» і газета «Звязда» друкуюць апавяданні, сярод якіх можа быць і тваё.

**РЭДАКТУРА.** Тэкст нават самага выбітнага майстра патрабуе дадатковай рэдактуры і карэктуры. Таму трэба быць падрыхтаваным да правак, якія зробяць рэдактар і карэктар. Тады тэкст будзе цалкам адпавядаць тым узорам, якія могуць быць апублікаваны і дайсці да чытача.

***Адам ГЛОБУС***

# Пішам апавяданне! З чаго пачнём?

Быў у мяне ў жыцці выпадак — закахаўся ў дзяўчынку. Нам было па трынаццаць, сустрэліся мы ў лагеры «Зубронак». Я ёй пісаў доўгія лісты, яна напачатку не адказвала, а потым завязалася ліставанне...

Прайшло тры гады — і неяк усё абарвалася. Пасля школы мы вучыліся ў розных гарадах. І вось нам па васямнаццаць, мяне накіроўваюць на практыку ў той горад, дзе вучыцца яна. І мы сустракаемся. Доўгія гадзіны ходзім па прысадах, засыпаных лісцем каштанаў і клёнаў. І лісце гэтае так чароўна шапаціць пад нашымі нагамі... Мы ўспамінаем, смяёмся, нам цёпла і хораша. Светла...

Вярнуўся я ў свой горад, сеў і пачаў пісаць апавяданне, у якім, канешне ж, былі восеньскія прысады, дарожкі з залатога лісця, дзяўчынка... Лёгка пісалася, рука па паперы лётала. А напрыканцы — спатыкнуўся. І праз дзень, і праз два не змог сесці і дапісаць. Усё было добра, усё было гладка, а не дапісвалася апавяданне! Хоць ты мяне забі — не было фіналу...

І вось паверце: так яго і не дапісаў! Але ў думках не адзін раз вяртаўся: чаму ж не атрымалася?

Давайце падумаем разам: што такое апавяданне? Чаму адно ўзрушвае душу і пакідае ў памяці след, а іншае ледзь прачытаеш — і ўжо забыўся? І чаму многія вядомыя пісьменнікі кажуць нечаканае: напісаць добрае апавяданне цяжэй, чым пасрэдны раман?

Не адзін раз даводзілася чуць: ого, якая глыбокая думка ў гэтым апавяданні!

А што такое думка? І якой яна павінна быць?

Не такое простае пытанне.

Ведаеце, сябры, калі пісьменнік піша сапраўднае апавяданне, то ён нам нешта кажа. Звярніце на гэта ўвагу: не расказвае пра нешта, а нешта кажа. Нешта сваё, арыгінальнае і нечаканае. А як гэта сказаць? Ну, не наўпрост жа ў канцы нейкім адным сказам накшталт: «Беражыце сяброўства!»

Давайце дамовімся: калі *расказваць пра нешта*, то гэта расказваць пра тое, як наш герой ідзе ў лес, бачыць там мурашнік, знаходзіць грыбы, ласуецца ягадамі. А калі *нешта казаць*, то гэта казаць пра тое, што ЗМЯНІЛАСЯ і чаму ў нашага героя ЎНУТРЫ.

Вось гэтыя ўнутраныя змены, якія адбываюцца пасля нейкіх вялікіх ці малых падзей, і ёсць тая самая перададзеная аўтарам думка.

Назавём усё тое, што існуе вакол чалавека — дом, сямейнікі, вуліца, мінакі, школа, сябры, etc — знешнімі фактарамі. Фактар — гэта тое, што мае нейкае ўздзеянне на чалавека, няхай, на першы погляд, і не зусім прыкметнае. І гэтыя фактары мяняюць нас саміх. Нейкі фактар — пакрысе і незаўважна, іншы — раптоўна і нечакана. Што значыць — мяняюць нас? Мяняюць нашы думкі, адчуванні, веды, стаўленне. Да прыкладу, бабулька-бамжыха корпаецца ў сметніку. Пачуцці да яе якія? Грэблівасць? Так. Шкадоба? Можа быць. А цяпер у гульню

ўступае нечаканы фактар: бабулька губляе кашалёк, наш герой яго знаходзіць, зазірае і бачыць там пасведчанне непаўналетняга вязня вайны! Што адбудзецца з нашым героем? Сапраўдны ўзрыў эмоцый, вэрхал думак!

Кожны з усіх існуючых знешніх фактараў уздзейнічае на ўнутраны свет героя. Мы называем гэты працэс эвалюцыяй свядомасці. Эвалюцыя — гэта развіццё, ведаеце ж. Свядомасць — гэта наша здольнасць успрымаць, ацэньваць свет вакол. І гэтая эвалюцыя свядомасці — самы цікавы працэс для чалавека і чалавецтва. Бо тут столькі нечаканасцей і супярэчнасцей! Мы ж усе — вельмі розныя. Вернемся да пасведчання нашай бабулькі-бамжыхі. Што зробіць герой? А нам невядома! Таму што рэакцыя на новы нечаканы фактар будзе абапірацца на выхаванне, веды, нават мінутны настрой героя.

І гэты момант заўсёды цікавіў пісьменнікаў, тым ён цікавы і для чытачоў: чаму ў амаль аднолькавых сітуацыях розныя людзі паводзяць сябе па-рознаму? У чым хаваецца таямніца іх учынкаў?

Цяпер, мяркую, вы разумееце, чаму я не дапісаў тое апавяданне. Бо не было ў мяне таго, што б я хацеў сказаць чытачу. Я расказваў пра прысады і сустрэчу, а галоўнымі былі адчуванні, думкі і пачуцці! Сустрэча павінна была змяніць майго героя, змяніць гераіню, нешта павінна было адбыцца ў іх душах! А ў мяне не адбылося...

Давайце падсумуем. Апавяданне — гэта кароткі расказ пра тое, як пэўныя абставіны — тыя самыя знешнія фактары — у пэўны час мяняюць унутраны свет людзей, і гэтыя змены выяўляюцца праз іх учынкі. Апавяданне — гэта раскрыццё аўтарам сакрэту паводзін чалавека ў пэўны прамежак часу. І асноўная цікавасць тут не ў сюжэце, не ў апісанні, а ў тым, як і што зробіць наш герой, і чаму ён зробіць так, а не інакш.

***Дзядзька Кузьма***

Перапынак

# Пачытаць «Мілаградскага коніка»

*Цікавая кніга Уладзіміра Ліпскага*




У кнізе, увогуле, дзве аповесці: «Мілаградскі конік» і «Даверлівая душа, або Споведзь Шпундзіка».

У першай мінскі хлопец Барыс супраць волі павінен быў з’ехаць на ўсё лета ў глухую (як ён яе сабе ўяўляў) вёску Мілаград, да дзядулі і бабулі. І як ён спачатку быў гэтым незадаволены, так пасля не хацеў з той вёскі з’язджаць. Чаму? Прачытай, дружа, у кніжцы.

У героя другой аповесці, Сяргея (да якога з дзяцінства «прыклеілася» мянушка Шпундзік) — пераходны ўзрост. Той самы няпросты стан, калі ты ўжо не дзіця, але яшчэ і не дарослы. Дакладней, ты ўжо даўно не дзіця, а вось бацькі чамусьці гэтага ніяк не заўважаюць. Тут ужо іншае пытанне: што рабіць? І адказ зноў — старонках гэтай кнігі.

З Алёнай Беланожка

Хімія з гісторыяй і геаграфіяй + працоўнае навучанне і школьнае свята

# Усё пра надзіманік

І эта ўсімі любімы паветраны шарык! Але цалкам магчыма называць яго «надзіманік», бо надзімаць яго можна не толькі паветрам. «Хвосцік» шарыка называецца пуцка. Шарык выраблены з латэксу, у якога вельмі цікавая біяграфія.

У прыродзе латэкс у форме млечнага соку выдзяляюць розныя расліны, напрыклад, дзьмухавец. У латэксе прысутнічае каўчук — прыродны эластычны матэрыял, з якога вырабляюць гуму. Вядома, што яшчэ ацтэкі выраблялі з прыроднага латэксу мячы для гульняў. Сёння людзі ўмеюць атрымліваць латэкс штучна.

Гісторыя сведчыць, што старажытныя грэкі ўпрыгожвалі свае балі і цырымоніі фарбаванымі шарамі, напоўненымі паветрам. Іх выраблялі з жывёльных вантроб. А першыя гумавыя шарыкі з’явіліся ў 1824 годзе ў Лондане. Іх зрабіў прафесар Каралеўскага ўніверсітэта Майкл Фарадэй для сваіх эксперыментаў з вадародам. Ён даследаваў эластычныя якасці каўчуку і зрабіў з яго дзве «аладкі». Каб тыя аладкі не зліпаліся, прафесар перасыпаў іх мукой, а ліпкія краі склеіў пальцамі. У выніку ў прафесара атрымаўся гумавы «мяшэчак», і калі ён паспрабаваў напоўніць яго геліем, мяшэчак надзьмуўся і ўзляцеў, бо гелій лягчэй, чым паветра!

Гелій — адзін з самых распаўсюджаных элементаў у Сусвеце, другі пасля вадароду. Абазначаецца сімвалам He (ад лацінскага Helium). Не мае колеру, смаку, паху, нетаксічны.

У 1825 годзе Томас Ханкок выпусціў набор «зрабі сам», у які ўваходзілі ёмістасць з вадкай гумай і шпрыц. Гэты набор дазваляў самастойна рабіць гумавыя шары-цацкі. Вулканізіраваныя шары — прататып сучасных шарыкаў — вырабіў Джордж Інграм у 1847 годзе, таксама ў Лондане.

Вулканізацыя — працэс, у выніку якога каўчук пераўтвараецца ў гуму пад уздзеяннем, напрыклад, серы. Адкрыў і запатэнтаваў вулканізацыю ў 1844 годзе Чарльз Гудзьір. Працэс названы ў гонар Вулкана — старажытнарымскага бога агню.

Як у наш час выкарыстоўваюцца паветраныя шарыкі?

У паветраплаванні адпушчаныя шарыкі паказваюць накірунак вятроў у розных слаях атмасферы, на рознай вышыні ад зямлі.

У метэаралогіі спецыяльныя шары-зонды дасягаюць верхніх слаёў атмасферы для правядзення там вымярэнняў.

І, канешне, шары — самы просты і яркі спосаб упрыгожыць свята. Мастацтва афармлення шарыкамі называецца «аэрадызайн». Шарыкі з'яўляюцца добрымі рэкламнымі носьбітамі: на іх можна надрукаваць: лагатып, слоган, пасля аформіць імі пляцоўку або раздаць гледачам.

Надзіманне шароў — добрае практыкаванне, яно развівае дыхальную сістэму, трэніруе лёгкія. Аднак правільней надзімаць шарыкі з дапамогай спецыяльных помпаў.

Каб шары лёталі, іх напаўняюць геліем. Але шарык, які напоўнілі геліем, лётае не вельмі доўга: малекулы гелія меншыя, чым поры латэксу, і лёгка праходзяць праз сценкі шара. А вось міларавыя шары могуць лётаць у памяшканні цягам двух тыдняў, таму што гелій у іх праходзіць не праз сценкі, а толькі праз клапан.

Паветраны шарык — гэта танная і яркая цацка, з дапамогай якой можна забавіць сябе і сяброў!

Прапаную, дружа, конкурсы з паветранымі шарыкамі.

*«Планета насякомых»*. Кожнаму ўдзельніку выдаецца надзьмуты шарык і маркер або фламастар. За тры хвіліны трэба намаляваць на шарыку як мага больш розных насякомых. Перамагае той, хто ўзгадае і намалюе найбольшую колькасць інсектаў (успамінай біялогію!). Ёсць другі варыянт конкурсу — «Зялёная планета»: удзельнікі малююць на сваіх шарыках кветкі і перамагае той, хто ўзгадае і намалюе іх больш.

*«Партрэт імянінніка»*. Таксама выяўленча-мастацкі конкурс. Удзельнікі з завязанымі вачыма малююць кожны на сваім шарыку партрэт імянінніка (вядучага свята, настаўніцы, дырэктара). Перамагае той, чый шэдэўр будзе больш падобны да арыгінала.

*«Лопні мяне!»* Для аматараў «гучных» спаборніцтваў. Кожнаму ўдзельніку выдаецца шарык, які трэба надзімаць ротам, пакуль ён не лопне. Перамагае той, чый шарык лопне першым.

*«Самы запаслівы»*. Спатрэбіцца вялікая колькасць надзьмутых шарыкаў. Удзельнікі гульні павінны набраць сабе іх як мага больш — у рукі, у зубы, пад вопратку… Перамагае той, хто збярэ найбольшую колькасць.

*«Кароль пуцак»*. Надзімаецца многа шарыкаў і яны размяркоўваюцца па пляцоўцы. Удзельнікі лопаюць іх і збіраюць пуцкі. Перамагае той, хто за дзве хвіліны назбірае самую вялікую іх колькасць.

А яшчэ можна пры дапамозе дзіркакола і старога рэкламнага праспекта зрабіць канфеці, напоўніць ім паветраны шарык і лопнуць — выйдзе яркі, шумны феерверк!

Шарыкі, напоўненыя геліем, або аб'ёмныя фігуры, выробленыя з іх, можна выпусціць у паветра — атрымаецца неверагодна прыгожае і эфектнае відовішча.

Усім яркага жыцця і высокага палёту!





# Добраахвотнае рабства журналіста Анатоля Тамашэўскага

*Інтэрв'ю*

Анатоль Тамашэўскі — адзін з выдатнейшых людзей майго краю. Заслужаны работнік культуры краіны — раз, журналіст з 43-гадовым стажам — два, чалавек, які чвэрць стагоддзя кіраваў раённай газетай «Асіповіцкі край», — тры, піша вершы, якія друкуюцца ў часопісе «Вожык», — чатыры, разам з мясцовым кампазітарам Віктарам Шышкаўцом стварыў каля паўсотні песень, што ўжо ўведзены ў рэпертуары калектываў мастацкай самадзейнасці вобласці і рэспублікі, — пяць. Некалькі гадоў таму быў выдадзены яго зборнік вершаў «Жонка на дыеце», нядаўна — яшчэ адзін, «Людзі — не анёлы». Мне, канешне ж, захацелася сустрэцца з земляком.

**— Што вам успамінаецца з дзяцінства?**

— Яно прыйшлося на пасляваенны час, які быў нялёгкім: дзецям прыходзілася дапамагаць бацькам па гаспадарцы. Часта мы працавалі і ў калгасе, дзе самі ішлі за плугам. Аднак, нягледзячы на тую нялёгкую пару, стараліся сябраваць з хлопцамі, старанна вучыліся і былі адданнымі сваёй зямлі. У школе любіў беларускую і рускую літаратуры і баяўся замежнай мовы.

**— Ці марылі калі-небудзь стаць журналістам, як пачынаўся ваш прафесійны шлях?**

— Задумкі стаць журналістам у мяне не было. Заўсёды бачыў сябе на сцэне. Пачалося з таго, што ў чацвёртым класе іграў немца, і мне гэта спадабалася. Пасля заканчэння школы вырашыў, што буду пачынаць з малога. Паступаў у Магілёўскі «культасвет» на драматычнае аддзяленне, аднак «праляцеў» на музыцы. І пайшоў у армію. Пасля службы ўжо працаваў у Магілёве, у будаўнічым упраўленні. Неяк пасля Новага года сустрэў сябра-настаўніка, які прапанаваў мне працаваць у рэдакцыі ў Круглым. Так вось і пачаўся мой прафесійны шлях.

**— Што для вас значыць паняцце «журналісцкая этыка»?**

— Самае галоўнае — пісаць праўду. І ніколі не карыстацца сваёй пасадай, каб нешта з гэтага мець.

**— Быў момант, калі пашкадавалі пра такі выбар прафесіі?**

— Не, ніколі не шкадаваў. Гэты выбар я называю добраахвотным рабствам. Усё жыццё пісаў толькі на роднай мове і лічу, што калі ты беларус, то гэта правільна.




Подпіс рэдактара

***Валерыя ЧАРНЫХ,***
***11 клас, Асіповіцкая гімназія***

# Помнік на месцы лазні

*Нарыс*

Кожную раніцу Андрэйка прачынаўся з адной марай — што хутка вайне канец. «Па-першае, — думаў ён, — скончу сярэднюю школу. Паступлю ў вучылішча, атрымаю прафесію. Потым вярнуся ў сваю вёску і буду з бацькам працаваць у калгасе. Можа, і Міхась застанецца ў вёсцы, не пойдзе ў ваенныя, як марыць зараз». З маленства хлапчукі былі не разлі вада, тым больш, жылі побач. Вось і сёння, не паспеў Андрэйка падумаць пра сябра, як той ужо тут.

— Андрэйка, ты чаго так позна не ўстаеш? — з парога спытаў Міхась.

— Мама на вуліцу не пусціла. Кажа, што немцаў поўная вёска. А хто іх ведае, што ім стрэліць? Лепей ім на вочы не трапляцца. Вось і ляжу, — адказаў Андрэйка.

— Так і ёсць. Мяне маці таксама толькі да цябе пусціла, бо блізка. А гуляць сёння небяспечна, — заўважыў Міхась, на хаду здымаючы кажушок. — Я ў цябе пабуду, удвух не так сумна будзе.

Андрэйка злез з печы і сеў разам з сябрам каля акенца. Хлапчукі глядзелі на двор — і кожны думаў пра сваё.

— Ведаеш, Андрэйка, — сказаў Міхась, — я, калі бег да цябе, сустрэў Марынку, бабы Анюты ўнучку. Яе немцы паклікалі фатаграфавацца з імі, паабяцалі заўтра яек і цукерак прывезці. Дзяўчынка сказала, што ўсім прапаноўвалі фота зрабіць. Вось я думаю, хай сабе Марынка, яна яшчэ зусім малая, не разумее нічога. Няўжо хто-небудзь з нашых сяброў за яйкі з цукеркамі фрыцам прадасца? Ды і Марынка, напэўна, не ўбачыць ніводнай цукеркі.

— Не-е, Міхась, я ўпэўнены, што больш жадаючых не знайшлося, — хмурна сказаў Андрэйка. — Падумай, як пасля такога бацькам у вочы глядзець? Яны за нас на фронце жыцця не шкадуюць, а мы за цукеркі фрыцам тут пазіраваць на камеру будзем?

— Я ўпэўнены, што і Марынка з перапуду не зразумела, што ад яе хочуць: шосты год малой толькі. Баба Анюта ёй яшчэ ўсыпле, што з хаты выйшла, — усміхнуўся Міхась.

Так хлопцы і праседзелі да самага вечара, абмяркоўваючы ўсе хвалюючыя тэмы. А пазней вярнулася спалоханая Андрэйкава маці і сказала, што Міхась застаецца ў іх нанач, бо на вуліцы вельмі неспакойна, чуваць стрэлы і крыкі.

— Вячэрайце і кладзіцеся на печ спаць. Мне ж трэба ісці да Піліпаўны, яна дужа хварэе. Буду з ёй да раніцы. Вы ўжо хлопцы вялікія і разумееце, што на двор нос сунуць нельга! — строга сказала Андрэйкава маці.

Але толькі за ёй зачыніліся дзверы, хлапчукі кінуліся ў сенцы і праз маленькую шыбіну спрабавалі разгледзець, што адбываецца ў вёсцы. Аднак убачыць нічога не атрымалася, а дзіцячую цікаўнасць стрымаць ужо не было сіл. Менавіта таму хлопцы перабраліся ў гумно, дзе праз шчыліны ў бярвеннях спрабавалі разгледзець, адкуль чуваць стрэлы і крыкі.

— Глядзі, Андрэйка, гэта ж старая лазня гарыць, што ля Імшанова возера, куды мы летась купацца хадзілі! — усклікнуў Міхась.

— Цікава, навошта немцам гэта лазня спатрэбілася? І што гэта за выкрыкі? — зацікавіўся Андрэйка.

Але лепей разгледзець, што на самай справе адбывалася ля возера, хлапчукам не ўдалося. Толькі чырвоныя языкі агню адбіваліся ад гурбаў вакол лазні, ствараючы ўражанне, што ўсё поле ахоплена полымем.

— Давай мы з табой, Міхась, як усё сціхне, возьмем лыжы і ноччу, калі людзі будуць спаць, сходзім і паглядзім.

Сціхла ў вёсцы аж пад раніцу. Узялі хлопцы лыжы і рушылі на месца. Ад убачанага Міхася і Андрэйку скаваў дзікі страх. Сярод абгарэлых рэштак Андрэйка ўбачыў жанчыну, а дакладней тое, што ад яе засталося. Яе рукі сціскалі нейкі скрутак. Андрэйка зразумеў, што скрутак — гэта немаўлятка, якое прыціскала да сябе жанчына, ратуючы ад немінучай смерці…

На ўсю моц рванулі хлапчукі дадому, гнаныя страхам. Не сказаўшы ні слова, яны паклалі лыжы на месца і ўзлезлі на печ, але сагрэцца так і не змаглі. Да самай раніцы не заснулі хлопцы, моўчкі трэсліся пад коўдрай, спрабуючы ўсвядоміць убачанае.

Раніцай вярнулася Андрэйкава маці і сказала, што немцы наладзілі ў вёсцы вобыск, нейкія лыжы шукаюць.

— Калі прыйдуць у хату, ляжыце сабе ціхенька і з печы не злазьце. Зразумелі? Што маўчыце? — спытала матуля.

І тут жанчына, убачыўшы белыя, як палатно, твары хлапчукоў, усё зразумела. Яна вылецела з хаты, але праз хвіліну вярнулася, трымаючы ў руках дзве пары лыж і сякеру. Моцнымі ўдарамі маці некалькі разоў секанула па лыжах і хуценька закінула іх у печ.

— Вось дурні! — толькі і сказала спалоханая жанчына.

— У той дзень немцы так нічога і не знайшлі. А Міхась з Андрэйкам атрымалі такі наганяй ад матуль, што доўга яшчэ памяталі. Вечарам Андрэйка сядзеў каля печы побач з матуляй і глядзеў на агонь. У вачах стаяла жудасная карціна жанчыны з немаўляткам. Мама абняла сына і ціха сказала:

— Яны вельмі хацелі жыць, але ў іх несправядліва адабралі ўсе мары разам з жыццём. А ты мог загінуць праз сваё глупства і назаўсёды застацца побач з тымі людзьмі. Помні, сынок, жыццё — самае дарагое, што ёсць у чалавека.

Вайна скончылася. І шмат таго, пра што марыў Андрэйка, збылося. На жаль, тата з вайны не вярнуўся. У 1944-м прыйшла пахаронка, таму ў вучылішча хлопец так і не паступіў, дапамагаў маці і працаваў у калгасе. А Міхась пад канец вайны падаўся ў партызаны, і з таго часу пра яго не было чуваць. Шмат чаго пабачыў у сваім жыцці Андрэйка, але матуліны словы і тую жудасную ноч ніколі не забываў.

Зараз на месцы лазні стаіць помнік і расце каля яго вялізная елка. І дзень, і ноч самотна шуміць яна над закатаванымі ахвярамі ваеннага ліхалецця. А мясцовыя жыхары саджаюць ля помніка кветкі ў памяць аб тых, хто марыў, але не дажыў. Не паспеў.




Подпіс рэдактара

***Валерыя КАБАК,***
***гімназія № 2, Вілейка***

# Іх усіх мы павінны лічыць героямі



*Каралеўскімі замкамі*
*Ганарацца,*
*Саборамі.*
*Мы — зямлёй партызанскаю,*
*Перамогай над ворагам.*
***Пімен Панчанка***

Я не буду больш пытацца ў бабулі пра вайну, бо калі ні спытай, яна робіцца сумнай.

Пра вайну я ведаю мала. Ведаю, што вельмі цяжка было нашым салдатам спраўляцца з фашысцкім нашэсцем. І пра свайго прадзядулю ведаю няшмат. Яго звалі Радчанка Васіль Фёдаравіч. Бацькі гаварылі, што да таго часу, як пачылася вайна, ён араў зямлю, сеяў жыта, гадаваў дзяцей. Іх было пяцёра. Выжылі толькі трое.

Мой прадзядуля быў пяхотнікам. Пяхота, казалі, — царыца палёў. Менавіта пяхоце даставалася ў першыя дні вайны больш за ўсіх. Майму прадзеду не давялося многа ваяваць, яго грудзі не ўпрыгожвалі медалі і ордэны. Так сталася, бо вельмі хутка, а дакладней, ужо ў 1941-м ён загінуў ад кулі фашыста.

Шмат гадоў родныя не ведалі нават, дзе ён пахаваны. Запросы сыноў вынікаў не давалі. Толькі ў пачатку 1990-х знайшліся звесткі, у якой брацкай магіле пахаваны мой прадзед. Аказалася, што гэта не так далёка ад вёскі, дзе ён нарадзіўся і вырас, дзе гадаваў сваіх дзяцей, дзе марыў аб шчасці і лепшай долі…

Марам не суджана было здейсніцца. Грымнула вайна. Апаліла неба, гарады і вёскі, чалавечыя лёсы. Яна не шкадавала нікога і нічога. І каб ёй супрацьстаяць, такія ж маладыя, як мой прадзед, не задумваючыся аб сваім жыцці, рабілі ўсё, каб прагнаць чужынца з бацькаўшчыны. Іх усіх мы павінны лічыць героямі — за іх смеласць, мужнасць, адданасць Радзіме.

***Святлана БУРАК,***
***6 клас, гімназія № 1 імя Ф. Скарыны, Мінск***

# Вы толькі гляньце на наша неба!

Тут жылі мае продкі, і я паспрабую зрабіць так, каб тут жылі і мае нашчадкі.

Беларуская зямля звязана ў мяне з рознымі колерамі. Успаміны дзяцінства, старыя фотаздымкі, наведванні сваякоў, якія жывуць у розных кутках

Беларусі, — усё гэта злілося ў адзіную карціну маіх уяўленняў пра Айчыну. Колер, які мае для мяне асаблівае значэнне, звязаны з вёскай Малінаўка ў Магілёўскай вобласці. Я бачыла зямлю, напоўненую льном, ячменем і пшаніцай. Яе насычаны арэхавы колер сказаў мне пра тое, што нашы продкі былі вельмі блізкія з прыродай. Яны разумелі, любілі і паважалі яе.

Можа, назіральнасць продкаў і паспрыяла таму, што кожнай з'яве быў прысвоены бог-апякун? У язычнікаў-беларусаў існавалі дзіўныя ўяўленні пра навакольны свет. А наша міфалогія вельмі багатая на паданні. З беларускімі легендамі і казкамі ў мяне вельмі цёплыя стасункі, бо іх мне ў дзяцінстве распавядала бабуля. Распавядала, седзячы ля печы. Адкінутыя полымем цені на сценах, ціхі дом, і чуваць толькі, як патрэскваюць дровы і распавядаецца чарговая казка. Паўсюль колеры агню і святла... Непаўторная ўтульнасць. Колькі захаплення нараджалася ўнутры, калі слухала зачаравана апавяданні пра русалак, лесавікоў і дамавікоў!

Нашу краіну называюць сінявокай, а на пытанне: «Чаму?» адразу знаходзіцца адказ: «Таму што Беларусь багатая на рэкі і азёры». Але ж сіні — колер не толькі вады. Вы толькі гляньце на наша неба! Аблокі, расплываючыся, агаляюць яго бездакорную сінь-чысціню. У нашым небе няма варожых самалётаў, па ім не ляцяць снарады, і мы нават уявіць сабе не можам, колькі было зроблена дзеля гэтага неба! Усё засталося на старонках гісторыі. Мы ж павінны чытаць іх.

Кожны чалавек сам стварае сваю сучаснасць. Але што такое краіна без нас, людзей? На нас ускладзена адказнасць за яе будучыню. Давайце ж будзем рабіць для яе толькі добрае! Наша Беларусь здольная раскрыць свае рознакаляровыя пялёсткі, адзін за адным, пацягнуцца яшчэ больш да сонейка, і такім чынам зрабіць свет багацейшым на яшчэ адну цудоўную кветку.

*Ксенія САСНІНА,*
*11 клас, ліцэй № 2, Мінск*

*Конкурс паданняў*

# Аб назве вёскі Вялічкавічы

Ёсць на Салігоршчыне вёска Вялічкавічы. І вось што апавядаюць мясцовыя жыхары пра яе назву. Калісьці на гэтым месцы, на ўзбярэжжы рэчкі Морач, ніхто не жыў, хоць мясцовасць была прыгожая і зямля ўрадлівая. А потым пасяліўся тут адзін чалавек па прозвішчы Вялічка. Пабудаваў хату і пачаў жыць з жонкай і дочкамі. А дачок у Вялічкі было тры, і ўсе прыгажуні. Не дзіўна, што калі выраслі дочкі, да іх адразу ж хлопцы пасваталіся з суседніх вёсак: Дзямід, Тарас і Далмат.

Хлопцы гэтыя былі дужымі і працавітымі, і Вялічка адразу ж даў згоду на іх шлюб са сваімі дочкамі. Але адну ўмову паставіў: не звозіць дачок у чужыя паселішчы, тут сваё жытло будаваць, побач з ім.

Згадзіліся хлопцы, так і з’явілася новая вёска. Назву ёй далі ад першага пасяленца, Вялічкі — Вялічкавічы. А дзяцей Дзяміда, Тараса і Далмата пачалі адпаведна называць: Дземідовічамі, Тарасевічамі і Далматовічамі.

Гэтыя тры прозвішчы, дарэчы, і зараз самыя распаўсюджаныя ў нашай вёсцы сярод карэнных яе жыхароў.

***Дар’я ЛІХТАР,***
***7 клас, Вялічкавіцкая СШ, Салігорскі раён***

# Музычная казка, або Маё любімае месца ў Мінску

Дзень скончыўся. Бясконцае неба над Мінскам упрыгожваюць жоўта-ружовыя аблокі: перш чым развітацца з жыхарамі горада, сонца дорыць ім свой цудоўны заход. Цямнее, адзін за адным загараюцца ліхтарыкі. Надыходзіць вечар. Нічога ў свеце не натхняе мяне так і не прываблівае, як выгляд вячэрняга Мінска. Таму запрашаю вас ісці за мной — я пакажу вам сваё любімае месца ў гэтым горадзе.

Мы стаім на Кастрычніцкай плошчы. Вакол шмат людзей. Хтосьці спяшаецца дадому, хтосьці выйшаў на шпацыр. Але праз хвіліну мы схаваемся ад гарадской мітусні. Хадземце сюды, за Палац Рэспублікі. Па лесвіцы спускайцеся акуратна… Так, тут непараўнальна цішэй. Мы ўжо амаль што на месцы, засталося толькі перайсці вуліцу і павярнуць направа.

Вы апынуліся ў самым мілым кутку горада з паэтычнай назвай — Музычны завулак. Мы на вузкім бруку паміж радамі маленькіх, нібы цацачных, дамкоў. Каменная дарога перадае атмасферу старога Мінска, а дзякуючы маленькім ліхтарыкам, што асвятляюць гэты завулак, месца робіцца асабліва ўтульным, па-сапраўднаму чароўным. У акенцах таксама гарыць святло. Цікава, хто жыве за гэтымі каляровымі сценамі?

Здаецца, тут пасяліліся казачныя героі. Так хочацца зазірнуць у акенца, паглядзець, што адбываецца ў дамках на самай справе. Зазірніце! Вы маеце такую магчымасць! Бо чароўныя будынкі — гэта невялікія ўтульныя кавярні. Кожная цікавая па-свойму — прыемнай музыкай, смачнай гарбатай, непаўторным інтэр’ерам. Некалькі столікаў стаяць знадворку. Тут абавязкова сядзяць, гледзячы адно аднаму ў вочы, закаханыя. Маленькі агеньчык свечкі асвятляе іх твары…

Мы быццам знаходзімся ў месцы, дзе спыняецца час, дзе сапраўднае жыццё злучаецца з казкай. Штосьці таемнае і загадкавае хаваецца ў Музычным завулку. І пакуль у небе над Мінскам усміхаюцца зоркі, давайце застанемся тут і паслухаем гэту ціхую музыку. Музыку любові, спакою і гармоніі.

***Ганна ЯЎСЕЙЧЫК,***
***11 клас, гімназія № 61, Мінск***

Аўтар рубрыкі Ліна Балданава

# Няўдалае лета

Гэтым летам Вольгу нічога не радавала: ні надвор'е, ні бездань вольнага часу, ні адкрытыя перад будучай дзесяцікласніцай магчымасці — мама з'ехала ў адпачынак, дачка сама сабе гаспадыня. Адпачывай, гуляй, забаўляйся!

Забаўляцца не хацелася. Прычына хавалася ў парушэнні даўняй летняй звычкі: кожны год яны з мамай з'язджалі на два месяцы да цёткі ў Крым. Тая трымала тузін адпускнікоў і была рада бясплатным памагатым. Мама прыбірала нумары ў невялікім прыватным гатэльчыку, а Вольга купляла прадукты і мыла бялізну. Прасторны пакой у мансардзе, шэсць гадзін на пляжы — тры зранку, тры ўвечары, сакавітая духмяная садавіна і вясёлыя вечары ў кампаніі з курортнікамі. Новыя знаёмствы і захапляльныя экскурсіі па паўвостраве.

— Лепш, чым усялякія Канары і Тайланды, — запэўнівала дачку мама.

Дзяўчына згаджалася. Жытло цётка прадстаўляла ім бясплатна, абедалі разам. Таму выдаткі патрабаваліся толькі на праезд. А сабраныя бацькамі за зіму грошы ішлі на абноўкі: у танных украінскіх буціках Вольгу апраналі як каралеву.

Сёлета ўсё не заладзілася. Спачатку трывожныя весткі з Украіны. Потым званок ад цёткі: збіраецца класціся ў шпіталь і просіць мамінай дапамогі, бо дом абы на каго не пакіне. Ды яшчэ ў такі час.

— Нікуды не дзенешся, — разводзіла мама рукамі, збіраючы ў дарогу сумку. — Красавік на дварэ, табе яшчэ два месяцы вучыцца. Але ты ў мяне дарослая, справішся. У чэрвені тата пасадзіць цябе на цягнік, а мы сустрэнем. Ідзе?

— А калі не атрымаецца? Вайна ж… — падціскала вусны дзяўчына.

— Ды якая там вайна — пагалоскі болей!

Цётка прахварэла два месяцы. А пасля паехала ў санаторый. Крым адышоў да Расіі. Вайна аказалася страшнай бядой у жыцці краіны-суседкі. Ды і ўсёй Еўропы.

— Не, — катэгарычна адмовіў бацька дачцэ. — І маме пакуль адтуль не выбрацца, і табе там рабіць няма чаго. Дома адпачнеш. Вайна там. Людзей забіваюць. Хочаш, вазьму пуцёўку ў лагер.

— Вось яшчэ! Там адны сапліўкі тусуюцца! — успыхнула Воля.

— Тады знайдзі сабе справу па сэрцы.

— А калі з кім-небудзь, за кампанію? — Вольга не хацела саступаць.

— Канец сувязі.

Ну вось, замест доўгачаканага мора і крымскага сонца яна атрымала дзевяноста дзён беларускага лета. Капрызлівага і сумнага: яе сяброўкі і сябры раз'ехаліся адразу пасля лінейкі. Хто да бабулі ў вёску, хто на заморскія курорты, хто ў санаторыі. Што ёй застаецца рабіць? Бабулі ў вёсцы ў яе няма. Пуцёўкі ў санаторыі раскуплены даўно. З працаўладкаваннем яна безнадзейна спазнілася.

Паплёскалася колькі дзён у Нёмане. Прагулялася па парку. Напісала колькі акварэлек. Прайшлася па крамах. І засумавала.

*Парады*

*Прасунуты старшакласнік:*

— Ой, толькі не трэба ныць наконт суму! І разумець сур'ёзнасць украінскіх падзей належыць у адпаведнасці з узростам. Што датычыцца канікул, дык было б жаданне, а цікавы занятак заўсёды знойдзецца. Прайдзіся па ўстановах і прадпрыемствах: лета — час адпачынкаў, і часовыя работнікі там часта бываюць патрэбны. Не заўсёды знойдзецца час у кадравікоў апублікаваць вакансіі. З чатырнаццаці гадоў падлеткам дазваляецца ўладкоўвацца на працу. Спіс прафесій, праўда, невялікі, але зарабіць на новую сукенку і сумачку ты зможаш без праблем. Да таго ж, засваенне прафесіі — справа сама па сабе захапляльная. Можна зладзіць круіз па Беларусі. Бярэш квіткі на цягнік. Напрыклад, для пачатку ў Мінск. Прыязджаеш у сталіцу раненька, увесь дзень гуляеш, ладзіш ачмурэннае сэлфі, наведваеш музеі і выставы, цырк або тэатр, а вечарам садзішся ў цягнік і накіроўваешся ў Віцебск або Гомель. За тыдзень наведаеш самыя прывабныя куткі нашай краіны і не патрацішся на гатэлі. Здорава? Яшчэ б! Я двойчы спрабаваў.

*Шкодная вучылка:*

— Ах, сумна табе! А як наконт паўтарыць трыганаметрычныя функцыі? І з геаметрыяй жа ў нас праблема! Праз два гады паступаць, а матэматыка катэгарычна кульгае. Вылучы на царыцу навук дзве гадзіны на дзень, будзь ласкавая! Калі што — тэлефануй, дзеля такой справы я прыеду з лецішча і пазаймаюся з табой месяц. Дарэчы, пра лецішча. На днях праходзіла паўз ваш участак. Заўважна, што мамы няма. Газон даўно трэба падстрыгчы. Ды і кветнік зарос. Да градак я не дайшла, сваіх клопатаў хапае. Азадач татульку, прысвяціце выхадныя ўчастку. Да сувязі.

*Мілашка:*

— Пачні з шопінгу — даўно пара памяняць гардэроб. Гэтым летам у трэндзе манахром, рэтра, празрыстасць, жакард, мінімалізм і стракаты прынт. Вось. І зрабі нешта з галавой — нічога так не адцягвае ад будзённай шэрасці, як візіт у добры салан. Выберы новы макіяж. Памятай, у новым вобразе шпацыры па горадзе робяцца асабліва прыемнымі. Ды і сяброўвак будзе чым здзівіць, не да канца ж свету яны цябе пакінулі. Дарэчы, у цябе старыя джынсы не валяюцца нідзе? З іх атрымліваюцца шэдэўральныя капы! Я так захапілася, што цяпер у маім пакоі нават вазоны ў джынсе! Стыльненька! Сяброўкі абзайздросціліся. Адлятаю! Сустрэнемся ў клубе!

*Першакласнік з яблыкам:*

— Няма чаго вешаць нос! Лета — галоўны цуд у нашым жыцці. Што ні зробіш, усё добра. Можна гуляць, купацца, хадзіць у лес, ездзіць на рыбалку. А калі ты не любіш гуляць адна, папрасі купіць табе сабачку. Ён і пагуляе з табой, і рассмяшыць. Я вельмі хачу сабачку. Але мама просіць падрасці. Шанцуе табе, ты ўжо вялікая! Яблычак хочаш?

***Дружа! Як збіраешся бавіць гэтае лета ты? За самы арыгінальны расповед, пра які заўгодна летні занятак, цябе чакае летні прыз-сюрпрыз!***



# Культурны хуліган Саша Нэма

## ПРА ДЗЯЦІНСТВА

У большай ступені я быў прадастаўлены сам сабе. Тата ездзіў на заробкі, мама працавала. Дзяцінства ў правінцыйным Слоніме ў 1990-я не было простым. Але ў ім былі свае радасці і хараство. Яно было зусім не такім, як зараз у дзяцей, пагружаных у віртуальную прастору (хоць гэта і нядрэнна, для ўсяго свой час). Я займаўся спортам, заўсёды рухаўся, трапляў у нейкія прыгоды. Цудоўнае дзяцінства! Наша сям'я была не самай багатай, таму радасць прыносіла кожная дробязь кшталту набытых красовак ці прысмакаў, калі казаць пра матэрыяльнае.

Але я адчуваю смутак ад сваіх успамінаў, бо для мяне гэта быў перыяд хваляванняў. Я быў вельмі эмацыйным і з ранняга ўзросту прымаў усё вельмі блізка.

## ПРА ЎЧЫНАК, ЗА ЯКІ СОРАМНА

Я скраў грошы ў мамы. Кашалёк, у якім было пяць з нечым рублёў. Але не для сябе. Я хацеў купіць машынку стрыечнаму брату. Прынёс кашалёк у дзіцячы садок, паказаў аднагрупнікам, выхавацельніца заўважыла і данесла маме.

Была сур’ёзная размова. Памятаю, каля пад’езда сядзела бабуля-суседка, і мама ёй расказала. Было жудасна сорамна, скрозь зямлю хацелася праваліцца. Гэта быў адзіны раз, калі я штосьці скраў.

## ПРА СЯБРОЎ

Я не ведаю, ці можна назваць тых хлопцаў, з якімі мы «тусаваліся», сябрамі. З цягам часу сэнс паняцця «сяброўства» змяняецца. Гэта ўсё ж нешта больш моцнае, чым проста сумеснае баўленне часу. Мне здаецца, сяброўства з дзяцінства, калі яго не разрываць, можа прайсці праз усё жыццё. Але часта сябры раз’язджаюцца ў розныя гарады, агульных тэм з часам становіцца ўсё меней. Упэўнены, што сяброўства на самай справе правяраецца ў складаных сітуацыях. Але і парадавацца па-сапраўднаму можна толькі за сябра. Людзей, якіх я зараз магу назваць сябрамі, можна на пальцах адной рукі пералічыць.

## ПРА ШКОЛУ

Мне падабалася хадзіць у школу. Вучыцца — так сабе, але стасункі ў школе прыносілі радасць. Ужо тады ў мяне з’явілася патрэба быць заўважаным. Канешне, гэта не заўсёды ішло на карысць, бо значна адлюстроўвалася на паводзінах. Утаймаваць маю энергію было немагчыма. Часам я проста не мог спакойна сядзець на занятках. Калі на мяне за што-небудзь і сварыліся, то выключна за паводзіны. Неяк знайшоў свой дзённік за 9 клас. Ён проста перапоўнены заўвагамі, я паверыць не мог, што іх было так шмат! Але я добра вучыўся. У мяне было некалькі любімых дысцыплін: «набор хулігана» — працоўнае навучанне, фізічная культура, музыка і маляванне. Вельмі падабалася геаметрыя і ўвогуле ўсе дакладныя навукі. Гуманітарныя дысцыпліны не любіў.

## ПРА МУЗЫКУ

Я памятаю нейкія цацкі цыліндрычнай формы і розных памераў. Я развешваў іх на крэсла, браў бабуліны пруткі і граў, бы на барабанах. Я мог лупіць па іх без перапынку, гэта была лепшая гульня. Суседзі на гукі не скардзіліся, напэўна, прыгожа стукаў. Магчыма, гэта і дапамагло мне потым трапіць у школьны вакальна-інструментальны ансамбль, дзе я граў на барабанах.

Мяне ніколі не ставілі перад сваякамі і знаёмымі, не прасілі спяваць. Ды я і саромеўся сярод сваякоў што-небудзь спяваць ці граць. Гэта ўсё адбывалася ў двары.

У Слоніме ў часы майго дзяцінства было няшмат крыніц, дзе можна было знайсці добрую музыку. Я слухаў усё, што гучала з радыёпрыёмніка і трох тэлеканалаў. У 14 гадоў пачаў цікавіцца творчасцю гурта «Агата Крысці», іншай музыкай — рокам, рэпам… Калі я прынёс у дом першую гітару, гэта было вялікай нечаканасцю. Родныя думалі: юнацкі капрыз.

***Першае выступленне*** было ў складзе школьнага вакальна-інструментальнага ансамбля. Тады ж я даў свой першы аўтограф — на аўтобусным талончыку для нейкай дзяўчынкі. Калі ставіў гэты першы подпіс, усведамляў, што іх павінна быць шмат.

***Першыя грошы*** стаў зарабляць у 15 гадоў. Яшчэ ў школьныя гады працаваў у музычным гурце на вяселлях разам са сваімі старэйшымі сябрамі. Лічу, што

бацькі правільна зрабілі, калі дазволілі мне гэтым займацца, бо я зразумеў, што такое праца і як зарабляюцца грошы.

## ПРА ХОБІ

На аматарскім узроўні мне падабаецца футбол. Ён і музыка былі асноўнымі напрамкамі, але і тым і другім я пачаў займацца даволі позна, бо і музычная школа, і футбольная секцыя знаходзіліся далёка ад дома. Таму ў двары я пачаў граць на гітары і там жа займаўся футболам.

Быў капітанам школьнай каманды КВЗ. Мы нават сталі чэмпіёнамі. Гэта быў залаты час — 9 і 10 класы. У выступленнях, рэпетыцыях і стасунках са старэйшымі знаёмымі знайшлі сабе выйсце і мая энергія, і патрэба ва ўвазе. Каманду рыхтавалі маладыя настаўнікі, у адрозненне ад іншых школ, дзе гэтым займаліся самі школьнікі. Але і мы не губляліся: я з годнасцю праходзіў усе капітанскія выпрабаванні.

Часам мяне трэба прымушаць што-небудзь зрабіць. Напрыклад, паехаць у падарожжа ці паглядзець які-небудзь фільм.

Калі глядзець кіно, то галоўнае, каб яно было прафесійна зроблена. Каб я не задумваўся: «Вось тут пайшоў кран, тут такі план, тут акцёры так стаяць…» Калі пачынаеш паглыбляцца ў сюжэт, а не думаеш, як гэта знялі, — то для мяне гэта добрае кіно.

## ПРА МЭТЫ І ЕЎРАБАЧАННЕ

Я ніколі не складаю планаў на далёкую перспектыву. Усё адбываецца паэтапна: дасягаю бліжэйшай мэты, бачу новую і іду да яе. З дзяцінства я быў прывучаны не пераскокваць праз прыступкі, а ступаць на кожную.

Зараз мы з маёй камандай шукаем новыя грані для творчасці. І ў нас атрымліваецца. Я адчуваю вялікі ўздым у творчым плане. Сёлета хачу паспрабаваць сябе ў конкурсе «Еўрафэст». Раней у мяне не было неабходнасці рабіць гэта: адчуваў, што не дарос. А цяпер такая прыступачка з'явілася на маім даляглядзе. На мой погляд, важна паказаць годны рэпертуар. Розныя выканаўцы, якія ў розныя гады займалі на гэтым конкурсе адны і тыя ж месцы, выклікалі зусім рознае стаўленне гледачоў. Рабіць прадказанні вельмі цяжка. Я і ў прафесіі, і ў жыцці стараюся паводзіць сябе натуральна. Мне здаецца, калі чалавек працуе сумленна, не падманваючы перш за ўсё сябе, то ўсё ў яго атрымаецца. Спецыяльна рабіць з сабой што-небудзь дзеля конкурсу я не буду. Ідзе натуральны працэс: з'явілася песня — і яе трэба прыгожа запакаваць.

## ПРА ЖЫЦЦЁ

Калі пераехаў са Слоніма ў Мінск, было страшна. Няўтульна. Жудасны дыскамфорт ад колькасці людзей навокал, ад руху. Але я паступова пераходзіў ад маленькага горада да вялікага. Вучыўся ў Гродна, паралельна працаваў у Мінску. Калі мы з маёй тады яшчэ дзяўчынай, цяпер жонкай, вырашылі здымаць кватэру ў Мінску, то ўсё, што ў нас было, — сумка, падушка і магнітафон.

Калі я стамляюся, то ўмею разгружацца. Гэта або спорт, або з'язджаю ў глухую вёску далёка ад Мінска, дзе на 2 кіламетры навокал нікога няма, і некалькі дзён там жыву. Гэта нібы іншы полюс. Адпачываю ад музыкі, інтэрнэту… Там




нават мабільная сувязь не працуе. Потым з'яўляецца жаданне вярнуцца ў тую рэальнасць, дзе мы існуем. Усё пазнаецца ў кантрасце. Напрыклад, людзі, якія жывуць ля мора, яго не бачаць. Я люблю мора, але жыць каля яго не хачу. Вось так і з працай: калі яе зашмат, адчуваеш, што гэта праца. Калі яе крыху не хапае, разумееш, што гэта стан душы. На шчасце, мая праца даволі разнастайная.

Я не хацеў бы ісці на працу, як на катаргу, толькі дзеля таго, каб атрымліваць якія-небудзь грошы. Гэта неразумна — звязаць сваё жыццё з нелюбімай справай. Канешне, многія ў жыцці трапляюць у такія сітуацыі, калі не могуць займацца тым, чым хочуць. Мне ў гэтым сэнсе пашанцавала: я зарабляў толькі музыкай.

Самыя важныя жыццёвыя ўрокі звычайна самі прылятаюць мне ў галаву. Яна ў мяне цалкам у гузах у прамым і пераносным сэнсе. Найлепшы ўрок — гэта самому спатыкнуцца, упасці, але не апусціць рукі, падняцца і ісці далей.

Пры якіх умовах я мог бы сказаць: «Жыццё ўдалося»? Я сёння гэта і кажу. Я не падводжу рахункі кожны раз, калі з'яўляецца нейкі творчы парыў і яго вынік. Вось напрыклад, сёння цудоўны дзень. У ім нарадзілася новая ідэя, якая мне вельмі спадабалася і якую я ўжо рэалізоўваю.

## ПРА ДОМ І СЯМ'Ю

У слове «дом» закладзены цяпло і ўтульнасць. На шчасце, мая сям'я менавіта такая, якая павінна быць у шчаслівага чалавека. Мае дочкі будуць займацца тым, чым захочуць. Як я магу казаць ім: «Не займайся любімай справай, а ідзі вучы біялогію»? У мяне душа будзе разрывацца. Таму я не буду на іх уплываць, як не ўплывалі на мяне мае бацькі. Старэйшая дачка ўжо даволі сур'ёзна займаецца гімнастыкай, спадзяюся, будзе атрымлівацца і далей. А малодшая пацягнулася да музыкі і мяне гэта насцярожвае. Затое, калі будзе артысткай, то пытанне з песнямі, аранжыроўкамі, студыяй і г.д. можна лічыць вырашаным.

## ПАРАДА

Хлопцы, заваёўваць дзяўчат трэба не якімі-небудзь бязглуздымі паводзінамі, а станоўчым прыкладам: вучобай, напрыклад. Але не забывайцеся на пачуццё гумару, будзьце вясёлымі і адкрытымі, «культурнымі хуліганамі».

***Запісала Кацярына ЗАХАРЭВІЧ***



# Будзеш, сонца, пячы пірагі!

Які чароўны малюнак вясковай ранічкі створаны ў вершы Уладзіміра Лісіцына «Пірагі»! Аксамітна-ружовы, як сонейка пасля сну. Радасна-ўзбуджаны, як цеста, што імкнецца з дзежкі. І такі духмяны, што хочацца яго з'есці!..

*Праз акно закацілася ў печ нашу раніцай сонца*
*Ды просіцца адтуль, нават матчыны рукі цалуе.*
*А маці ўзяла ды яшчэ прычыніла заслонкай:*
*Будзеш, сонца, пячы пірагі, злуйся — не злуйся.*

А чаго злаваць? Сонца даўно ўжо спеліць начынне для тых пірагоў! Парэчкі, сунічкі, чарэшні, чарніцкі, маліны, агрэст і дурнічкі! Будуць адметныя чызкейкі, слойкі і пясочныя пірагі. Вунь сонца ўлагоджвае бульбу на полі: расці, маўляў, вялікая, варыся потым сопкая — спатрэбішся на памяшчаку. Памяшчака — гэта такі адмысловы апетытны пірог без верхняй скарынкі, цалкам адкрыты, нават без аніякай «рашоткі». І з несалодкім начыннем. Смажаныя грыбочкі, цыбулька з кропам ды пятрушкай, бульба, сыр таркаваны — што заўгодна размяшчаецца паверсе цеста (згатаванага на рошчыне). А потым заліваецца яечнай баўтанкай, каб стварыць ружовы сонечны настрой кожнаму, хто гэты пірог пакаштуе.

А згатаваець мы табе, дружа, прапануем летнія піражкі пад назвай «Сонечныя зайкі».



*Што спатрэбіцца:*

***1 кг дрожджавага цеста,***
***1 варачны пакецік любой крупы (прадаюцца такія ў каробках па пяць штук — для варкі ў пакеціку),***
***6 вараных яек,***
***500 г зялёнай цыбулькі,***
***100 г брынзы,***
***1 ч. л. прыправы кары,***
***алей для смажання.***

*Як гатаваць:*

Крупу зварыць па інструкцыі і вызваліць з варачнага пакеціка, астудзіць, змяшаць з кары, дробна пасечанымі цыбулькай і яйкамі, а таксама дробна пакрышанай брынзай.

Гатовае цеста абмяць, раскатаць на кругляшыкі, на кожны выкласці па дзве лыжачкі начыння, сфарміраваць піражкі казачнай формы («човенчыкамі», як у мульціку пра Хаўрошку, калабкамі, трохкутнічкамі з вушкамі ці яшчэ як). Разагрэць патэльню з алеем і смажыць павольна, каб прапякліся, з абодвух бакоў.

Смачна есці!

# Згуляць у тры каменьчыкі







Мастачка Юлія УСАВА

*Старая французская гульня*

Двое ўдзельнікаў бяруць па тры каменьчыкі кожны і хаваюць у руках за спінай. Затым па сігнале выцягваюць уперад кулакі, у якія заціснуты каменьчыкі: усе тры, або два, або адзін, або нават ніводнага. Затым па чарзе кожны спрабуе адгадаць, колькі каменьчыкаў схавана ў кулаках. Адну і тую ж колькасць называць нельга: калі першы агучвае лічбу 6, то другі павінен абраць нейкую іншую (5, 4, 3, 2, 1, пуста). Далей удзельнікі расціскаюць кулакі і глядзяць, хто ўгадаў. Калі ніхто, гульня працягваецца далей, а калі хтосьці выйграў — ён выкідвае адзін каменьчык.

Перамогу ў гульні атрымлівае той, хто першым тры разы назваў правільную лічбу і, такім чынам, пазбавіўся ад усіх каменьчыкаў.

# Падзяліць сямнаццаць вярблюдаў

*Старая арабская прытча*

Адзін стары араб пакінуў тром сынам сямнаццаць вярблюдаў. Старэйшаму сыну ён завяшчаў палову ўсіх вярблюдаў, сярэдняму — трэцюю частку, малодшаму — дзявятую.

Пачалі сыны дзяліць вярблюдаў — і ніяк справіцца не могуць! Не дзеліцца 17 ні на 2, ні на 3! Пачалі яны спрачацца, ледзьве справа да бойкі не дайшла. Добра, што ў гэты час праязджаў паўз іх на вярблюдзе адзін мудры дэрвіш. Звярнуліся да яго браты, расказалі пра сваю бяду. Падумаў дэрвіш і сказаў:

— Так і быць, вазьміце майго вярблюда і тады ў вас стане іх 18. І на 2, і на 3 гэтая лічба дзеліцца.



Мастачка Юлія УСАВА

Узрадваліся браты, пачалі дзяліць 18 вярблюдаў. Старэйшы брат узяў палову, сярэдні — трэцюю частку, малодшы — дзявятую.

І чамусьці застаўся ў іх адзін «лішні» вярблюд, той самы, якога і прапанаваў братам мудры дэрвіш. Усміхнуўся ён, сеў зноўку на свайго вярблюда і паехаў сабе далей.

Калі не верыце, што менавіта так і павінна было атрымацца, то не палянуйцеся: падзяліце, складзіце… і ў вас таксама атрымаецца «лішні» вярблюд.

*Наталля ЦВІРКО*

# Колеру якога лета?

## АЛЯКСЕЙКА І СЯБРЫ

З кім сябруе Аляксейка?
Можа, з брацікам Андрэйкам?
Можа, з Данікам-суседам?
Ці з Алёнкай-непаседай?

Не, сяброў ён іншых мае:
Тэлевізар паважае,
Ну, а больш за ўсё — камп'ютар,
І планшэт цягае ўсюды.

Як жа стала так, скажыце?
Хлопцу вы дапамажыце!
Хай жа ведае, хай знае.
Што сяброў не тых ён мае!

## ЛЕТА

Там за лесам — рэчка,
А за рэчкай — поле.
Колькі летам шчасця,
Радасці, прыволля!

На зялёным лузе
Белыя рамонкі.
І спявае песню
Салавейка звонка.

Адгукнецца рэха
Радасна на золку.
Пацалуе ветрык
Белыя рамонкі.

Там за лесам — рэчка,
А за рэчкай — поле.
Колькі летам дзеткам
Радасці, прыволля!

*Малюнак Арцёма ПЕНДЫ*
*Мінская гімназія-каледж мастацтваў*

***

Колеру якога лета?
Хто з вас ведае пра гэта?
Лета — з радасцю, прыволлем,
І з канікуламі ў школе!

Можа, колер залацісты,
Яркі, радасны, іскрысты?
Можа, сонечны, шчаслівы?
Ці ракі блакіт імклівы?

Адказаць на гэта цяжка.
Ды ці вельмі тое важна?
Лета — з радасцю, прыволлем,
І з канікуламі ў школе!



***Наталля Цвірко працуе настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў Скрыбаўскай СШ Шчучынскага раёна. Лічыць, што вершы — гэта тое самае, што споведзь. Хочацца дадаць: перад будучыняй. Дарэчы, дружа, чыя аповесць так называецца? Ці чытаў ты яе? Пачытай.***

## ВОСЕНЬ-ЧАРАЎНІЦА

Распусціла восень залатыя косы
І ідзе нясмела, бы дазволу просіць.
Стане лісце жоўтым, а яшчэ барвовым.
Восень размалюе ўсё так адмыслова!

Тонкай павуцінкай адлятае лета,
А душа спакоем і цяплом сагрэта.
Распусціла косы восень-чараўніца…
Так вакол прыгожа, што не надзівіцца!

## ВОСЕНЬ-ПРАЦАЎНІЦА

У стракатым фартушку
Восень крочыць па лужку,
Цераз поле, праз балоты…
Шмат у восені работы:
Фарбаваць ёй трэба дрэвы
І дажджоў паслухаць спевы…
Бачыш, колькі пазалоты?
Шмат у восені работы!



## СЫНУ

Хай над табой, мой хлопчык мілы,
Заўжды анёла будуць крылы.
У радасці альбо ў самоце,
Сярод сяброў і ў адзіноце.

Калі агорне сум шчымлівы
І калі будзеш ты шчаслівы.
Заўжды ў трывозе і ў спакоі
Хай будзе твой анёл з табою!

## ЖУРАВІНЫ

Дзе збіраюць журавіны?
На балоце, у нізінах.
Там, дзе журавы жывуць,
Там і ягады растуць.

Вось таму і журавіны
Надзялілі назвай дзіўнай.
Там яны, дзе журавы,
На балоце, між травы.

## ВАСІЛЁК

Васілёк у жытнім полі
Прачынаецца паволі.
Ён расплюшчыў вочкі сонна:
«Нешта доўга спаў я сёння!»

Промнем сонейка ласкава
Васілёк пацалавала.
У адказ ён усміхнуўся
І амаль зусім прачнуўся.

А вакол якое ранне!
Птушкі так пяюць старанна!
Васілёк у жытнім полі
Сустракае дзень паволі.

**_Алег ЖДАН_**

# Прынцэса*

*Маленькая аповесць з прызнаннем і загадкай*

Наша класная гаворыць, што ў кожнага ёсць свой адметны талент. Але не кожны ведае пра яго. Я, напрыклад, пакуль не ведаю. Можа, я таленавіты канструктар? Чаму б і не. Можа быць.

Можа, я буду артыстам, кінарэжысёрам ці пісьменнікам? Чаму б і не, што тут складанага? Вывучыў ролю — іграй. Прачытаў добры сцэнарый — збірай акцёраў, кінаапаратараў, мастакоў — «Матор!» і паехалі. Пісьменнікам увогуле быць працей простага: сеў за камп'ютар і гані тэкст. Нават папера не патрэбна. А можа, я моцны матэматык ці фізік? Вось гэта наўрад ці, з гэтым у мяне праблемы. Хаця, калі ўзяцца… засяродзіцца…

А што мае сябры-таварышы? Якія ў іх таленты? Няма іх! Усе мы, у параўнанні з Алёнкай, беcталанныя, хоць ты смейся, хоць плач. Прычым раней у нас былі таленты, а пасля некуды дзеліся. Мішка, напрыклад, яшчэ ў пятым класе ўмеў варушыць вушамі, а цяпер — не. Юра ўмеў гаварыць, не адкрываючы рот. Лёха брахаў, мяўкаў, свісцеў, хрукаў, мычаў, іржаў… Карацей кажучы, мог паказаць любую жывёліну. Касценчык умеў свой мабільнік выцягнуць з чужой кішэні ці сумкі… Цяпер усё недзе прапала. Увогуле, цяпер уся надзея на будучыню, лічыцца, што талент можа з'явіцца-выявіцца ў любы момант. Вось кажуць, што закон сусветнага прыцягнення Ньютан прыдумаў у той момант, калі яблык стукнуў у лоб. Гэта не так, на самай справе ў той момант, калі стукнуў яблык, у яго праявіўся талент!

А вось у Алёнкі сто талентаў, яны з яе пруць і таму незразумела, які галоўны. Але ведаць трэба, каб не памыліцца, выбіраючы сабе дарогу ў будучыню.

Я нават спытаўся аднойчы, як табе здаецца, які твой талент самы галоўны?

— Пакуль не ведаю, — адказала яна і нават засумавала. — Я хачу стаць добрай настаўніцай, як Ніна Леанідаўна, а ёсць у мяне педагагічны талент ці не… Не ведаю. А ты як думаеш, ёсць?

— Ды ў цябе сто талентаў! — закрычаў я. — Гэта ў мяне нічога няма!

— Як гэта няма?

— Няма і няма! Пуста! — я пагрукаў кулаком па галаве. — Хоць застрэлься!

— Дзіўна… — сказала Алёнка. — А па-мойму, ты выдатны матэматык. І фізік. І хімік… Акрамя гэтага, хораша танчыш.

— Я? Танчу?

— А як спяваеш!

— Спяваю?

---

***Заканчэнне. Пачатак у № 5.***




І тут я зразумеў, што яна нада мной смяецца. Менавіта з матэматыкай, фізікай і хіміяй у мяне праблемы. Што датычыцца спеваў і танцаў… Апошні раз я танцаваў у першым класе — «Яблычак», а спяваў у чацвёртым, і настаўнік спеваў — Пенік — сказаў мне: «Так, здорава, ты мяне, труба іерыхонская, аглушыў». (Зразумела, труба — гэта нешта страшнае). Так што, мінус два таленты — спевы і танцы. Засталося адшукаць плюс.

Між іншым, нядрэнная ідэя мільганула ў маёй галаве: а што калі і мне стаць настаўнікам? Разам з Алёнкай паступіць у педагагічны ўніверсітэт, разам вучыцца, пайсці працаваць у адну, можа быць, нашу школу… Ідэя нядрэнная, але пакуль я яе не агучыў. Ідэя, я чуў ад разумных людзей, павінна выспець.

У панядзелак раніцай на вялікім перапынку ў школу прыйшоў нейкі дзядзька і адразу накіраваўся ў настаўніцкую. Дзядзька — гэта нас не датычыцца, дзядзька як дзядзька, вось толькі ў яго быў звярыны выраз твару.

— Ух ты, — сказаў Юра. — Зараз ён некага парве.

Высветлілася, не дарэмна мы на яго звярнулі ўвагу: ён прыходзіў, можна сказаць, да нас. Справа ў тым, што наш ЖЭС, гэта значыць, домакіраўніцтва, знаходзіцца ў тым жа доме, дзе жыве Алёнка, і прызнанне Мішкі Сідарчука аказалася якраз перад уваходам. А дзядзька — начальнік ЖЭСа. І яму гэтае прызнанне дужа не спадабалася. І не таму, што Мішка ўляпіў у двух словах дзве памылкі, а таму што… Што гэта будзе, калі ўсе пачнуць на асфальце прызнавацца ў каханні? Чаму цяпер ён кожны дзень павінен чытаць гэта прызнанне? Яшчэ не спадабалася, што дворнікі не змаглі мётламі змесці гэта графіці, не саскрэбла і машына са шчоткамі, а скрэбці металічнымі скрабкамі дворнікі адмовіліся. Маўляў, не наша гэта работа. Хто пісаў, няхай той і саскрабае. Таму і прыйшоў начальнік у школу, каб правесці расследаванне і ўстанавіць — хто? І прымусіць чысціць асфальт. «Ну, і як гэта ўстанавіць?» — запытаўся дырэктар, нахіліўшы галаву, і стаў хмурыцца: вельмі ён не любіць, калі хтосьці староннi ўмешваецца ў справы школы. «Вельмі проста. Спярша трэба ўстанавіць, хто такая прынцэса». «Дом вялікі, — сказаў дырэктар, — прынцэс шмат. Кожная дзяўчынка прынцэса». Аднак домакіраўнік не здаваўся: «Няпраўда, можна ўстанавіць. Трэба скласці спіс і ўстанавіць, хто такі Пельмень». Але дырэктар наш, аказалася, малайчына. «Чаму вы ўпэўнены, што гэта мянушка нашага хлопца? На суседняй вуліцы ёсць яшчэ адна школа. І ўвогуле, калі

памятаеце, трапяткія пачуцці не залежаць ад адлегласці. Можа быць, Пельмень жыве ў другім горадзе. Пачуцці, як вядома, патрабуюць выйсця. Вось і ён: прыехаў, прызнаўся, паехаў. Хоць бы ў Маскву ці Санкт-Пецярбург». «Не! — не хацеў пагаджацца домакіраўнік. — Я адчуваю, ён з вашай школы!» «Адчуваць — гэта мала, — заўважыў дырэктар. — Патрэбна мець факты. Так што, расследаванне адмяняецца!»

Самае цікавае, што дырэктар цудоўна ведаў не толькі, хто Пельмень, але і хто — прынцэса. З таго дня мы яго пачалі моцна паважаць.

І домакіраўнік адправіўся са школы незадаволеным.

А праз дзень мы ўбачылі, што нейкі дзяцюк з балончыкам для графіці палівае шэрай фарбай, пад колер асфальту, прызнанне, а на ганку стаіць ягоны хмуры начальнік. Тры мінуты — і прызнання як і не было…

Аднак у наступную суботу на асфальце перад домам Алёнкі з'явілася яшчэ адно крывава-чырвонае сэрца!..

— Не я, — сказаў Мішка, — чэснае слова, не я!

Так? Тады хто?

На вялікім перапынку класная сказала:

— Затрымайцеся. Іван Сяргеевіч хоча сказаць вам некалькі слоў.

Іван Сяргеевіч — гэта дырэктар.

Мы, канешне ж, адразу здагадаліся, пра што пойдзе размова.

Ён увайшоў у клас моцна заклапочаным. Мы, як і павінна быць, усталі, дырэктар махнуў рукою, падышоў да настаўніцкага стала. Было вельмі ціха. Іван Сяргеевіч доўга маўчаў, гледзячы перад сабой, а мы чакалі. Нарэшце ён сказаў:

— Я вам не раю прызнавацца ў каханні прылюдна. Пачуццё гэта тонкае, лепей гаварыць пра яго сам-насам. Акрамя таго, другі раз ужо не ўражвае. Сэрца, якое нехта з вас намаляваў на дарозе, не крывавіць. Ды і навошта падстаўляць сэрца пад ногі мінакоў…

— Гэта не я! — раптам закрычаў Мішка. — Чэснае слова, не я!

Але дырэктар ужо зачыняў за сабою дзверы.

Звычайна на вялікім перапынку мы ўсе вывальваемся ў калідор — хто ў сталовую, хто ў буфет, хто носіцца па лесвіцах, але тут ўсе засталіся за партамі, гледзячы адно на аднаго.

Хто?

Пасля заняткаў усе разам пайшлі глядзець, што і як намаляваў там невядомы паклоннік нашай прынцэсы. І Алёнка пайшла. Праўда, звычайна яна ідзе наперадзе ўсіх, а тут — ішла ззаду, апусціўшы сваю прыгожую галаву.

Так, сэрца было велізарнае, у два разы большае, чым Мішкіна прызнанне. Праўда, таленту ў мастака не хапіла: сэрца атрымалася крывое. Усе паглядзелі на Алёнку. Яна стаяла, не падымаючы галавы.

— Надакучыла! — сказала.

— Здаецца, я здагадваюся, чыя гэта работа, — вымавіў Юра, пільна паглядзеўшы на мяне.

— Чыя?

— А ты не ведаеш?

— Не.

— Дзіўна, — загадкава сказаў ён. — Я лічыў, што ты здагадлівы.

Падобна, што Юра стаў сябраваць з Кацярынай. Раніцай ён чакае яе каля школы, каб разам зайсці ў гардэробную і клас, а пасля заняткаў праважае дадому, хаця ім зусім не па дарозе. Вучыцца Каця па-ранейшаму сярэдне, і на перапынках Юра нешта тлумачыць ёй па матэматыцы ці фізіцы. Кацярыне, відаць, няёмка, яна чырванее і хацела б проста спісаць хатняе заданне, але спісваць Юра дае толькі ў крайнім выпадку, калі не атрымліваецца растлумачыць даходліва ці ўжо часу нестае. Вельмі часта, заўважыўшы такое сяброўства, у нас пачынаюць пасмейвацца і хіхікаць, але да Юры ніхто не прыстае: ён можа так адказаць, што ўся школа будзе смяяцца. Нездарма яго абралі капітанам школьнага КВЗ і брэйн-рынга, і нават старшакласнікі прыходзяць да яго на перапынках, пра нешта раяцца. Ну, а я ганаруся: мой таварыш.

Мішка Сідарчук перастаў гаварыць пра тое, што стане касманаўтам. І сапраўды: да восьмага класа вымахаў пад два метра. Які космас? Такому касманаўту, як некалі сказаў Юра, патрэбна будаваць спецкарабель, спецскафандр, а колькі патрэбна дататковага паліва? Перастаў гаварыць і пра плаванне на караблях. «Я табе дам — караблі! — сказаў яму бацька. — Пойдзеш на паўгода ў мора — чакай яго!» Бацька ў яго такі. Можа і капітану далёкага плавання ўрэзаць па шыі.

Часам я думаю, што наша будучыня складваецца не з нашых планаў і жаданняў, а з магчымасцей. І Мішка, марыць ён пра гэта ці не, будзе вялікім спартсменам, у прыватнасці, баскетбалістам. Ужо цяпер фізрук, калі сустракае Мішку ў калідоры ці ў школьным двары, заўсёды ўсміхаецца і без усялякай прычыны выразна і моцна вымаўляе малазразумелую фразу: «Гонар рэспублікі!» Што ж, Мішку ўжо зараз запрашаюць у маладзёжную зборную, ды бацька не дазваляе, гаворыць: «Зняславіш рэспубліку, чэмпіён». Гэта ён пра тое, што па мовах — рускай, беларускай і англійскай — у яго цвёрдая двойка. Ну, тройка. А калі чацвёрка, дык гэта свята. Нездарма ж напісаў: прынцэсу.

Што ж атрымліваецца? Што ўсе ў нас не проста добрыя, а проста выдатныя — і вучні, і настаўнікі. Але калі адкрыта і прама — ёсць усялякія. Напрыклад, Гусь. Гэта значыць, Гусакоў. Я ніколі не бачыў жывых гусей, але, гавораць, гусакі нападаюць на людзей, шыпяць і балюча шчыплюць. Такі і наш Гусь. Да хлопцаў, праўда, не лезе, а дзяўчат шчыпае так, што выскокваюць сінякі. Акрамя таго, можа падысці і ціхенька сапсаваць паветра. Сам пры гэтым ужо знікае, назіраючы збоку, і хіхікае. Канешне, яму і пападае не слаба, асабліва ад Пельменя, але яго бі не бі — зноў жа, як з гусака вада.

Ці Машка Салохіна… З усімі сябруе, усім усміхаецца, усіх падслухоўвае, а пасля рассылае такія эсэмэскі, што людзям адно аднаму ў вочы глядзець сорамна… Мы яе і на сходзе разбіралі па костачках, сарамацілі, а яна… Увогуле, таксама з пароды гусынь, толькі што не шчыпаецца…

Ці… Не, хопіць, а то атрымаецца, што і я… Прамаўчу. Скажу толькі пра нашу матэматычку, Тамару Мікалаеўну, па мянушцы Куля. Вельмі прыкметнае ў ёй — паходка: не стой на дарозе, хоць і маленькага расточку, — знясе. Настаўніца яна, напэўна, добрая, тлумачыць зразумела, адзнакі ставіць справядліва, але… Ну, не ведаю. Напрыклад, яна ніколі не глядзіць на нас. Толькі ў акно, на дошку, у журнал… Дзіўна, што помніць нас па прозвішчах. І калі выклікае да дошкі — адразу ў яе пачынаюць ныць зубы: моршчыцца, качае галавой, паціскае плячыма…

Агідна ёй ад нашага выгляду, ад нашых галасоў і ведаў. Але ёсць у яе любімчыкі, напрыклад, Юра. З ім яна — Юрачка, Юрачка… — тоненькім галаском, амаль дысканцікам, а са мной басам: «Бабушкін, да дошкі!» І нават калі я збяруся і рашу якую-небудзь складаную задачу, усё роўна пацісне плячыма. Маўляў, дзіўна, мусіць, выпадкова. І нават, калі я раззлаваўся і перарашаў усе задачы за месяц, яна не паверыла. «Паглядзім, што будзе далей», — сказала. Цікава, што і Алёнка не паверыла. Сказала: «Шчасціць табе апошнім часам!» І класная, Ніна Леанідаўна, засумнявалася: «Сам усё гэта рашыў?» Паверыў толькі мой тата, сказаў: «А я ўжо думаў — тупы».

Юра, канешне ж, будзе вялікім шахматыстам. Ужо зараз ездзіць на спаборніцтвы. Нармальнае будзе ў яго жыццё! То ў Францыі, то ў Аўстраліі, то ў Амерыцы… І не трэба нічога з сабой цягнуць. Прыхапіў шахматную дошку і паляцеў. Нядаўна ён прапанаваў наладзіць спаборніцтвы па шахматах без дошак. Ніхто не пагадзіўся: без спаборніцтваў ясна, усіх парве.

Лёха Касценчык, відаць, наважыўся ў артысты. Па-першае, умее падрабляць галасы настаўнікаў, асабліва голас дырэктара: так рыкне — падскочыш на месцы, калі пачуеш. Не кажучы ўжо пра тое, што ўмее паказваць фокусы: напрыклад, любы мабільнік выцягне з чужой сумкі. Падобна, што я самы неперспектыўны. Ніякага бачнага таленту ў мяне няма. Праўда, у гэтым годзе я пачаў пісаць вершы. За месяц напісаў штук дваццаць. Кажуць, нядрэнна. Пішу я пра рознае: пра жыццё, прыроду… Люблю што-небудзь філасофскае, каб не тупа. Адзін вершык я ахвяраваў Алёне і падклаў ёй. Як жа ёй спадабалася!.. Як пачырванела і заўсміхалася!.. А можа, у мяне насамрэч паэтычны талент? Трэба пачытаць, як пачынаў Аляксандр Сяргеевіч Пушкін. Калі ўжо пісаць, то менавіта як ён. Ну, як Лермантаў. Але не горш.

*Алег Ждан — пісьменнік, які піша і для дарослых, і для дзяцей. Нядаўна ў «Выдавецкім доме «Звязда» выйшлі дзве яго дзіцячыя кнігі: «Праздник продолжается, или Щенок, велосипед и шишка на лбу» і «Приключения тритэшек в Беларуси». Аповесць «Прынцэса» — чарговы яго твор для падлеткаў.*

Канешне, добра было б стаць праграмістам. Але тут патрэбна мець моцныя матэматычныя мазгі, а тата днямі сказаў, што мазгоў у мяне зусім няма. Ох, адчуваю, хутка давядзецца мне засяродзіцца…

Будучыня, у будучыні, пра будучыню, на будучыню… Як толькі не ўжываецца гэта слова, хто толькі яго перад намі не прамаўляе. Часцей за ўсё яны, настаўнікі і бацькі, нас гэтым паняццем пужаюць: глядзіце… убачыце… успомніце…

А нам зусім не страшна. Наадварот, нам здаецца, што там, у будучыні, будзе толькі добрае. Канешне, могуць здарыцца і непрыемнасці, але добрага будзе невымерна болей.

Раптоўна ў мяне пайшлі вершы — усё роўна як плаціну прарвала. Не паспяваў запісваць, гнаў старонку за старонкай. Ідэі прыходзілі нават ноччу. Праўда, падымацца я ленаваўся, а раніцай успомніць не атрымлівалася. Па дарозе ў школу — адзін верш, па дарозе дадому — другі. Іншым часам нават на перапынку прыдумваў рыфму. Але галоўнае, што ўсім мае вершы падабаліся! Нават Алёнцы.

Яна сказала: «Трэба табе пазнаёміцца з якім-небудзь сапраўдным паэтам. Можа быць, цябе ўжо пара прымаць у Саюз пісьменнікаў. А яшчэ конкурсы ўсялякія праводзяцца — можаш выйграць першае месца і атрымаць прэмію». Толькі Юра, мой сябар, неяк незразумела рассмяяўся. «Пушкін! — сказаў ён. — Я помню мімалётнае імгненне!»

Вось толькі дзе знайсці сапраўднага паэта?

Але аднойчы мне пазваніў Касценчык.

— Ты дома? Бягом да возера! Ёсць! — як агаломшаны пракрычаў ён.

Пасля школы Касценчык заўсёды туляецца каля возера — гатовы галадаць, каб толькі не ісці дахаты, не рабіць урокі. І, канешне, каб не зарабіць кухталёў ад бацькі. А некалі ж мы ўсе былі харашыстамі, выдатнікамі — і Лёха Касценчык, і Мішка Сідарчук, і я…

— Што здарылася? Што ёсць?

— Ходзіць! Па набярэжнай! З кульбачкай!

— Хто ходзіць?

— Паэт!

— Адкуль ты ведаеш? Што ў яго, лэйбл на ілбе?

— Дык відаць жа!

Ладна. Я накінуў куртку і пакрочыў да возера. Лёха стаяў навідавоку і махаў рукой, як прапелерам.

— Хутчэй, хутчэй! Вунь ён, глядзі!

Што ж, гэты чалавек — у сінім берэце з чырвоным пампонам, з разной кульбай у руцэ — цалкам мог быць і паэтам. Ён стаяў на набярэжнай і нешта шаптаў, — менавіта так паводжу сябе і я, калі надыходзіць натхненне. Але як пазнаёміцца з ім?

— Бяру на сябе! — сказаў Лёха і рушыў да паэта. Я таксама скіраваў следам, каб чуць, як пойдзе справа.

Але чым бліжэй, тым марудней станавіліся яго крокі. Вось і зусім спыніўся.

— Нешта мне… неяк… хто яго ведае… — мармытаў ён. — Нейкі ад яго ток… небяспека… Ідзі ты лепей сам.

Але і я ўжо адчуў гэты ток. Ніякай ахвоты знаёміцца болей не было. Ды і чалавек гэты ўжо сыходзіў. Не даганяць жа яго?

Па нядзелях мы сустракаемся ў парку, каля Вялікага фантана. Мы — гэта Юрка, Міша Сідарчук, Лёха Касценчык, і я, як вы ўжо ведаеце, Андрэй Бабушкін. Не прыходзіць толькі Алёнка Гушчына. У яе нядзеля самы цяжкі дзень. У нядзелю ў яе дадатковая англійская, руская і беларуская, дадатковыя бальныя танцы, дадатковая… Хаця па ўсіх гэтых прадметах у яе чыстыя дзявяткі-дзясяткі. Увогуле, для яе нядзеля не радавы дзень тыдня, а дадатковы.

Што ж, у нас мужчынская кампанія.

Калі ў каго ёсць грошы, бяром водны веласіпед, а то і два. Можна пакатацца на кацеры. Можна пакатацца на сігвеі — гэта такая штука на двух колах, ездзяць на ёй стоячы. Ды шмат чаго ёсць на набярэжнай.

І аднойчы мы зноў убачылі гэтага чалавека. Ішоў ён, памахваючы кульбай, пазіраў направа-налева, быццам любаваўся прыродай, неяк нават паплёўваў і прытанцоўваў, нешта часам нагаворваў на тэлефон. Было відаць, што ў чалаве-

ка выдатны настрой. Канешне ж, прырода ля возера прыгожая, але ж не першы раз ён усё гэта бачыць?

Пазней Юра даў яму мянушку «Кульба». І вёў ён сябе, як кажуць, неадэкватна, не так, як усе. Напрыклад, падышоў да яго нейкі рыжы і кучаравы, пра нешта загаварыў, нешта сказаў-запытаўся, а паэт раптам скочыў убок і ўзмахнуў сваёй кульбай. Рыжы-кучаравы таксама адскочыў, нешта крыкнуў і адразу ж знік, растварыўся сярод людзей. Што ён такое сказаў, чаму абодва скокнулі?.. Акрамя таго, Кульба час ад часу даставаў тэлефон — даволі старэнькі, але з дыктафонам, і нешта гучна прамаўляў, не звяртаючы ўвагі на мінакоў. Гэта значыць, усё пацвердзілася: паэт.




Мы вырашылі паглядзець на яго зблізку, паскорылі крок, а калі параўняліся, Лёха Касценчык раптам, можа, нават нечакана для самога сябе, звярнуўся да яго:

— Не скажаце, дзе знаходзіцца Вялікі фантан?

— Што-што? — здзівіўся той.

— Фантан.

— Які яшчэ фантан?

— Вялікі. Я прыезджы, нічога тут не ведаю. А фантан, кажуць, прыгожы.

І замоўклі абодва, быццам увайшлі ў ступар.

— Хлопчык, ты мне замінаеш! — раптам закрычаў Кульба. — Рыфма ідзе, а ты мне — фантан!

— Што ідзе?

— Рыфма!

— Якая?

— Сілаба-танічная!

Тут ужо Лёха струсіў і на ўсялякі выпадак скочыў убок.

— Не зразумеў!

— Дам палкай па спіне — зразумееш! — прыкрыкнуў той і ўзмахнуў кульбай.

Увогуле, размова завершылася поўнай паразай Касценчыка. Мы таксама стаялі, разявіўшы раты. Што такое рыфма, мы, зразумела, ведалі. Гэта будаўнічы матэрыял для верша, а вось сілаба-танічная рыфма — высветлілася, што гэта не абракадабра, а такія рыфмы, калі склады чаргуюцца — то пад націскам, то без… Але пра гэта мы даведаліся пазней.

Што ж, паэты — людзі асаблівыя. Запраста за згубленую рыфму могуць даць палкай па спіне. А той рыжы-кучаравы, які падыходзіў да яго, відаць, быў ці шкадлівы літаратурны крытык ці такі ж паэт.

Між іншым, болей Кульба каля возера не з’яўляўся: відаць, завершыў сваю паэму, ці сілаба-танічная рыфма ў нашых мясцінах болей да яго не прыходзіла.

І ў мяне таксама раптам учыстую прапала натхненне. Як адсекла. Я нават паспрабаваў выклікаць яго праз сілу — не, глуха. Значыць, я не паэт… Хто ж я?

Але і яшчэ раз, ужо вясною, мы сустрэліся з гэтым паэтам. Ішоў ён па набярэжнай марудна, небяспечна круціў сваю цяжкую кульбу, і ўсе людзі абыходзілі яго бокам. А калі Лёха падышоў і зноў запытаўся, дзе знаходзіцца Вялікі фантан, ён адказаў: «Недзе я цябе бачыў, хлопчык». І перахапіў кульбу паямчэй, каб, калі што… Ну, і Лёха зноў на ўсялякі выпадак адскочыў: хто яго ведае… У любы момант можа адбіць сілаба-танічную рыфму па спіне.

Другое сэрца з’явілася ў суботу, а праз некалькі дзён мы ўбачылі, што па калідоры школы крочыць наш участковы і кіруецца наўпрост да кабінета дырэктара. З участковым мы былі ўжо знаёмыя. Ніна Леанідаўна запрашала яго ў клас, і ён нам спадабаўся: усміхаўся, распавядаў цікавыя выпадкі і не надта палохаў нас калоніяй для непаўналетніх. Вось толькі сёння выглядаў вельмі заклапочаным. Пра што ў дырэктара адбылася размова, пазней нам распавяла класная. Выявілася, што домаўпраў паскардзіўся на хуліганствы нашых вучняў. Праўда, ён, участковы, графіці асаблівым хуліганствам не лічыў, але ж папярэдзіць кіраўніцтва школы абавязаны. Ну, а дырэктар, у сваю чаргу, абавязаны ўчастковага выслухаць ды прыняць нейкія меры.

Гэтыя меры мы чакалі цэлы тыдзень. Не, ціха. Відаць, у нашай школе цалкам нармалёвы дырэктар.

— Прызнавайся, — сказаў Юра і пранізліва паглядзеў на мяне.

— У чым? — я моцна здзівіўся яго голасу і такім вачам.

Юра маўчаў.

— Не разумею, — сказаў я.

— Усё ты разумееш. Ладна, не хочаш, як хочаш. Але я ведаю. Не хвалюйся, нікому не скажу.

— Што ты ведаеш?

— Усё.

На гэтым наша размова закончылася.

Цікава… Што ён меў на ўвазе?

Няўжо і праўда здагадаўся?

Ладна, прызнаюся: крывое сэрца намаляваў я. Канешне ж, мастаком мне не быць. Намаляваў, як мог. Крывое — таму што спяшаўся. Ды і маляваў у пацёмках. Я павінен быў гэта зрабіць не таму, што так ужо закаханы ў Алёнку, а каб гэты домакіраўнік не думаў, што ўсё так лёгка і проста. Замазаў, і як не было ні Пельменя, ні Алёнкі, ні ўсіх нас.

— Як ты здагадаўся? — спытаў я.

— Што тут здагадвацца. Гэта ўсе ведаюць.

— Як — усе?

— Абсалютна. Ты вачэй з яе не зводзіш.

Вось і ўсё. А я зусім не быў настроены прылюдна прызнавацца ў каханні…

Перад Новым годам быў канцэрт сіламі восьмых класаў. Як заўсёды — танчылі, спявалі. Але ж галоўнае — выкацілі з-за кулісаў піяніна і Каця Ахрэмава іграла… Мы, канешне, ведалі, што яна займаецца ў музычнай школе, аднак… Не, мне гэта незразумела. Як можна запомніць тысячу гукаў? А калі дзесяць тысяч? А калі сто? Што за чым і што як… А яшчэ і нагой трэба націскаць на нейкую педаль. Вось і яе будучыня вызначылася: быць ёй піяністкай…

Алёнка, як заўсёды, танчыла. Апошнім часам яна захапілася ірландскімі танцамі. Эх, не бачылі вы, як яна танчыла! Мы далоні адбілі, калі ёй хлопалі.

Пельмень выйшаў на сцэну з гірай і так кідаў яе левай і правай, так пыхцеў — мы думалі лопне. Можа, і лопнуў бы, каб фізрук не крыкнуў ва ўсё горла: «Харрош! Канчай!»

Кастенчык увогуле праславіўся: падышоў да дырэктара і выцягнуў у яго з кожнага кармана чужы мабільнік.

У мяне гэткіх талентаў няма, і мне перад канцэртам прапанавалі прачытаць які-небудзь верш. Я адмовіўся. Што мой маленькі вершык, калі вакол гэткія незвычайныя таленты?..

Зіма была суровай і снежнай. Графіці засыпала снегам, скавала маразамі, і мы забыліся на яго. Але прыйшла вясна, снег растаў, і мы ўбачылі, што маё крывое сэрца зіхаціць, як і раней. Ха-ха! Не так лёгка знішчыць каханне! Мы стаялі на крывавым сэрцы і хіхікалі.

— И мое сердце остановилось,
Мое сердце замерло, — прабляяў Юра і паглядзеў на Пельменя.

Пельмень не адрэагаваў.

— Отдышалось немного
И снова пошло, — дадаў Юра.

Пельмень маўчаў.

— Каханне мінула — завялі памідоры, — прамовіў нейкую бязглуздзіцу Юрка.

— Не зразумеў! — насупіўся Пельмень.

— Каханне жыва, але ж сохнуць агуркі, — дадаў Юрка і адскочыў убок.

— Ты ў мяне калі-небудзь атрымаеш, — сказаў Пельмень. — Усыплю напоўніцу. З верхам.

— Супакойцеся! Надакучыла, — засердавала і Алёнка. — Што вы на самай справе? Аж моташна.

І гэта падзейнічала. На самай справе, чаго ўжо так старацца, калі галоўнаму гледачу нецікава.

— А чаго ён лезе? — пакрыўджана сказаў Пельмень. — Я яму на самай справе калі-небудзь…

— Хлапчукі, — сказала Алёнка, — я ж вас усіх моцна люблю! Пакуль!

І яна пакрочыла да свайго пад’езда. Цярпення чакаць ліфт у Алёнкі заўсёды не хапала, і яна лёгка пабегла на свой шосты паверх.

***Пераклад з рускай Алеся КАРЛЮКЕВІЧА.***
***Малюнкі Ганны БАРЫСАВЕЦ, 10 клас, гімназія № 1, Слуцк***

# Бярозка

мысліць крэатыўна



*Штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс (для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту)*

***Выдаецца са снежня 1924 года***

***Узнагароджаны ордэнам «Знак пашаны»***

Заснавальнік
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».

В. а. галоўнага рэдактара
Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА





Адрас рэдакцыі

Юрыдычны адрас:
220013, г. Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.

Паштовы адрас:
220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
bjarozka@mail.ru
http://www.maladost.lim.by/berezka
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.



Падпісныя індэксы:
74879 — льготны
74822 — індывідуальны
748222 — ведамасны

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 210 ад 23.04.2013, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Намеснік галоўнага рэдактара:
Г. П. АЎЛАСЕНКА

Рэдактар:
К. В. ЗАХАРЭВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
Г. К. КІРЭЕНКА

Камп'ютарны набор:
А. Г. КАХНОЎСКАЯ

Стылістычны рэдактар:
К. С. ГОЛУБ

Падпісана ў друк ??.06.2015 г.
Фармат 60x84 ⅛. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 5,58. Ул.-выд. арк. 5,30.
Тыраж 1111 экз. Заказ
Кошт нумара ў розніцу 15 000 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«БудМедыяПраект»
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск





**01** Верасок-проза
**06** Верасок-паэзія
**22** Школа журналістыкі

**36** Літаратурныя старонкі. Паэзія
**39** Літаратурныя старонкі. Проза

**14** Бел. літ.
**17** Практыкум
**28** Сітуацыя плюс
**35** Перапынак

**08** Па-дарасламу
**10** Калі сур'ёзна
**11** Пазакласнае
**12** Па палічках

**30** Гісторыя поспеху

**13** 13-я
**18** Зубронак
**20** Табе навука
**25** Я сардэчка Беларусь
**34** Гатавальня


**Клуб сяброў часопіса**:
*Фарміруецца з кожным нумарам, складаецца са школ аўтараў (вучняў, бацькоў і настаўнікаў), а таксама школ з найбольшай колькасцю падпісчыкаў.*

Мінская дзяржаўная гімназія-каледж мастацтваў, Бараўская СШ (Дзяржынскі раён), Гудагайская СШ (Астравецкі раён), Дворнасельская СШ (Міёрскі раён), Ждановіцкая СШ (Мінскі раён), Залеская СШ (Чачэрскі раён), Калодзішчанская СШ (Мінскі раён), Мар'інагорская гімназія, гімназія № 2 (Вілейка), гімназія № 1 (Свіслач, Гродзенская вобласць), гімназія № 1 (Чэрвень), Міханавіцкая СШ (Мінскі раён), Сапоцкінская СШ (Гродзенскі раён), Чапукоўская СШ (Міёрскі раён), СШ № 12 (Гродна), СШ № 1 (Докшыцы), Параф'янаўская СШ (Докшыцкі раён), СШ № 1 (Глыбокае), СШ № 1 (Ельск), СШ № 34 (Мінск), СШ № 129 (Мінск), СШ № 136 (Мінск), СШ № 165 (Мінск), СШ № 201 (Мінск), СШ № 207 (Мінск), гімназія № 1 імя Ф. Скарыны (Мінск), гімназія № 10 (Мінск), гімназія № 11 (Мінск), гімназія № 29 (Мінск), гімназія № 30 (Мінск), гімназія № 75 імя П. Масленікава (Мінск), СШ № 9 (Маладзечна), гімназія № 10 (Маладзечна), СШ № 3 (Пружаны), Пружанская гімназія, СШ № 25 (Мінск), Пагосцкая СШ (Салігорскі раён), Коханаўская СШ імя І. П. Кажара (Талачынскі раён), СШ № 1 (Пінск), Гарадзішчанская СШ (Пінскі раён), ліцэй № 1 (Мінск), ліцэй № 2 (Мінск), гімназія № 35 (Мінск), гімназія № 16 (Мінск), СШ № 15 (Баранавічы), СШ № 38 (Мінск), Зажэвіцкая СШ (Салігорскі раён), СШ № 20 (Мінск), СШ № 10 (Барысаў), Асіповіцкая гімназія, Забалацкая СШ (Воранаўскі раён), Вялічкавіцкая СШ (Салігорскі раён), гімназія № 61 (Мінск), СШ № 77 (Мінск), Сакалоўская СШ (Чэрыкаўскі раён), Уладзімір Міхайлавіч Голубеў (Мінск).

*На першай старонцы вокладкі — малюнак вучаніцы мінскай гімназіі №75 Віялеты Валынкінай.*

## ПЫТАННІ ДЛЯ ЗНАХОДЛІВЫХ



**1.** Што кідаюць, калі ў ім маюць патрэбу, і ўздымаюць, калі патрэбы няма?
**2.** Што робіць вартаўнік, калі ў яго на плячы верабей сядзіць?
**3.** Калі б у вас была ўсяго адна запалка, а вы ўвайшлі ў пакой са свечкай, камінам і газавай плітой, то што б вы запалілі ў першую чаргу?
**4.** Якое кола ў машыне пры правым развароце не круціцца?
**5.** Хто ходзіць, калі сядзіць?
**6.** Чаго няма ў ранцы неахайнага вучня?
**7.** Калі жоўты мячык кінуць у Чорнае мора, якім ён будзе?
**8.** Як напісаць выраз «сухая трава» ўсяго чатырма літарамі?
**9.** У памяшканні знаходзяцца 13 курэй, 5 зайцаў, 2 шчанючка, 1 кошка і 4 індычкі. А потым туды зайшоў яшчэ і гаспадар з сабакам. Колькі ў памяшканні стала ног?
**10.** Што ў Расіі на першым месцы, а ў Францыі на другім?

## Падарунак ад  а



### ІГОЛКІ-ПАДКОЛКІ

Калі настаўнік і выйграе што ў рабоце, дык гэта мільён праблем.

Чалавек, аднойчы ўзяўшы ў рукі камп'ютарную мышку, аказваецца потым на ўсё жыццё ў мышалоўцы.

Жыццё ў настаўнікаў (не толькі фізікі) — суцэльная механіка: то круцішся, то верцішся.

Калі дыктуюць пачуцці, розум піша са шматлікімі памылкамі.

Столькі ўсяго адбылося на ўроку, што пра перапынак і думаць боязна.

Калі з планаў настаўніка нічога не выцякае — значыць, у іх вада.

Эвалюцыя дапамагла чалавеку спусціцца з дрэва і адправіла яго на неба.

Строгі педагог нават сам з сабою не гаворыць на роўных.

Нішто так не аб'ядноўвае настаўнікаў і вучняў, як званок на перапынак.

***Канстанцін КАРНЯЛЮК, Віцебск***



*Мастак Алег ГУЦОЛ*

Адказы на пытанні для знаходлівых:
1. Якар.
2. Спіць.
3. Запалку.
4. Запаснае.
5. Шахматыст.
6. Парадку.
7. Мокрым.
8. Трэба напісаць: «сена».
9. Дзве, бо ногі толькі ў чалавека, у астатніх — лапы.
10. Літара «р».

*Мінская гімназія № 75 прадстаўляе*

# ЧАРОЎНАЕ ПРАДМЕСЦЕ АЛЬБЕРЦІН





*Макет рэканструкцыі сядзібы Альберцін (Слонім). Аўтар Ілона Розум. Кіраўнік Тацццяна Васільеўна Вайтэнка.*

Гэтая сядзіба была закладзена ў першай палове XIX стагоддзя пад Слонімам, у тагачасным яго прыгарадзе пад назвай Альберцін. Так яе і назвалі — сядзіба Альберцін. Належала Пуслоўскім. Падлога тут некалі складалася з рознагатункавага паркету, а з гладкіх столяў, упрыгожаных «разеткамі», звісалі жырандолі. Сцены мелі самае рознае ўзорыстае аздабленне. У пакоях размяшчаліся латарынгскія печкі і французскія каміны, над адным з якіх — у пакоі пана Пуслоўскага — вісела фрэска пэндзля Францішка Жмуркі. Было тут некалькі, як тады называлі, «салонаў» — з «чорнадубовым», аздобленым разьбою, фартэпіяна, бронзавымі гадзіннікамі і кандэлябрамі, мэбляй у духу розных Людовікаў, у кітайскім, гданьскім, венецыянскім стылях. У сталовай выстаўляўся посуд самых розных мануфактур — ад нашай целяханскай да чужынскай венскай. А кнігі месціліся ў дванаццаці высачэзных шафах, налічвалася іх аж да некалькіх дзясяткаў тысяч. Сярод твораў жывапісу, што радавалі вока гаспадароў і гасцей, — эскізы да Вінчы і Рубенса, абразкі Манюшкі і ўжо ўпамянёнага Жмуркі…

Падчас Першай сусветнай вайны, у 1915-м, Пуслоўскія вывезлі адсюль усе свае каштоўнасці назаўсёды.

ISSN 0320-7579

